*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 89 (4341)**

9 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Генадзь ФЯДЫНІЧ: «Чаму дэпутат мае пенсію каля 900 рублёў, а рабочы са стажам – 300–400?»

Генадзь Фядыніч неадназарова крытыкаваў у СМІ ўлады, заяўляючы, што тыя не асабліва варушацца ў накірунку праўдзівых рэформаў. Мы пацікавіліся ў прафсаюзнага актывіста, што канкрэтна ён прапануе...

– На маю думку, рэфармаванне трэба праводзіць крок за крокам, – кажа Генадзь Фёдаравіч. – Відавочна, што сёння ўжо становіцца цяжка кіраваць прадпрыемствамі, якія з'яўляюцца дзяржаўнымі. Многія маюць вялікую запазычанасць перад банкамі па крэдытах, таму становяцца банкрутамі.

Гэта, можа, не тычыцца буйных прадпрыемстваў, іх пашкадуюць, але меншыя, безумоўна, спыняць існаванне. Працэс, што называецца, ужо ідзе. Таму відавочна, што ад такога дзяржаўнага кіравання трэба адмаўляцца. Неабходна, каб больш актыўна прыходзілі інвестары з канкрэтнымі планамі і канкрэтнымі працоўнымі месцамі. На гэта трэба ісці і гэтага не трэба баяцца.

**– Адным словам, малыя стратныя прадпрыемствы вы прапануеце аддаць у рукі прыватнікам?**

– Безумоўна, хаця таксама трэба ўважліва глядзець, у чые рукі патрапіць уласнасць. Але ў любым выпадку лепш усётакі перадаць яе прыватніку, чым назіраць, як прадпрыемства канчаткова развальіцца.

Паводле нашай інфармацыі, на гэты момант мы маем у краіне каля 30 прадпрыемстваў, якія будуць збанкрутаваны. І тэндэнцыя, думаю, працягнецца. А банкрутства – гэта і страта людзьмі працоўных месцаў, і змяншэнне падатковых паступленняў у бюджэт.

**– А што датычыцца буйных прадпрыемстваў...**

– Там пра банкрутства размова не ідзе, але ёсць іншая праблема – не заўсёды прадукцыя гэтых заводаў канкурэнтаздольная. І наша прапанова – ствараць сумесныя прадпрыемствы з тымі, хто мае больш высокія тэхналогіі, бо ў сённяшнім свеце толькі такім чынам можна выжыць.

**– МАЗ хацеў стварыць сумесны холдзінг з КАМазам, але далей слоў справа не пайшла. Чаму?**

– А я не лічу, што той жа расійскі КАМаз – гэта заўтрашні дзень у машынабудаванні. Чаму не падымаць планку вышэй і не казаць, напрыклад, пра сумесныя прадпрыемствы МАЗа і нямецкага МАНа? Трэба шукаць лепшыя варыянты, а не тое, што падвернецца. Але для гэтага трэба мець палітычную волю і шэраг законаў, якія гарантавалі б інвестару права на маёмасць. Каб законы не мелі зваротнай сілы.

Акрамя таго, жыццёва неабходна наяўнасць на такіх прадпрыемствах незалежных прафсаюзаў, каб наймальнік не мог рабіць са сваімі работнікамі тое, што захоча. Павінен быць абаронены не толькі інвестар, але і рабочы.

**– Якія яшчэ вашы прапановы?**

– Усім вядома, якія сродкі укладваюцца ў сельскую гаспадарку. У кожным раёне ёсць некалькі больш-менш прыбытковых гаспадарак, але што рабіць з астатнімі? Выхад, як мне падаецца, адзін: больш даваць фермерам.

Акрамя таго, калі сёння ў краіне не будзе сярэдняга і малога бізнесу, то не будзе і крокаў, каб людзі жылі лепш. Патрэбны добрыя законы, але іх трэба прымаць, у першую чаргу абмяркоўваючы з тымі, хто імі будзе карыстацца. Магчыма, кожны будзе цягнуць коўдру на сябе, але залатую сярэдзіну паміж інтарэсамі бізнесу і дзяржавы можна знайсці. Трэба толькі жаданне.

**– Неяк вы заяўлялі, што неабходна змяняць і працэдуру абрання кіраўнікоў у рэгіёнах...**

– Безумоўна, гэтыя людзі павінны абірацца людзьмі, а не прызначацца зверху, бо шмат што залежыць ад мясцовай улады. Чыноўнік павінен трымаць адказ найперш перад людзьмі, а не перад чыноўнікам вышэйшага рангу.

Увогуле, трэба рабіць больш празрыстыя выбары, пачынаючы ад мясцовых і заканчваючы прэзідэнцкімі. Што гэтаму перашкаджае? Чаго баяцца чыноўнікі? Калі тут змен не будзе, то тыя самыя чыноўнікі будуць думаць толькі пра адно – як захаваць пасаду.

І яшчэ. Я не разумею, чаму дэпутат Палаты прадстаўнікоў мае пенсію каля 900 рублёў, а пенсіянер, які адпрацаваў на прадпрыемстве 30–40 гадоў, атрымлівае 300–400 рублёў? На мой погляд, дэпутаты павінны атрымліваць пенсію з таго месца працы, з якога чалавек прыйшоў у дэпутацкае крэсла. Усе павінны быць у роўных умовах. Тады будзе і давер да ўлад.

**– Вы кажаце пра неабходнасць рэфармавання, але ж нельга казаць, што рэформы зусім не ідуць, хіба не так?**

– Нейкія зрухі ёсць, але, відаць, улада баіцца фарсіраваць падзеі. Мы, дарэчы, прапаноўвалі ўзяць нейкі рэгіён, дзе і выпрабаваць гэтыя самыя рэформы на такім, так бы мовіць, эканамічным вучэбным палігоне. І пабачылі б, які будзе эфект. Хіба гэта не слушна?..

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАРЭЧЫ

*Сёння ў Мінскім гарадскім судзе адбудзецца разгляд апеляцыйных скаргаў лідараў прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** і **Ігара Komліка**.*

Яны абскарджваюць прысуд ад 24 жніўня 2018 г., паводле якога іх прызналі вінаватымі па ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (ухіленне ад выплаты падаткаў у буйным памеры).

Суд Савецкага раёна асудзіў кіраўнікоў прафсаюза РЭП на 4 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу з забаронай займаць кіруючыя пасады тэрмінам на 5 год. У скарзе лідары прафсаюза просяць спыніць гэтую крымінальную справу.

РЭЙТЫНГ

## Медыкі ў лідарах

Як вядома, з 1 верасня адмысловым указам кіраўніка дзяржавы медыкам і настаўнікам павысілі заробкі за кошт павышэння тарыфных ставак, акладаў і дыферэнцыраваных даплат з улікам аб'ёму, складанасці і выніхаў працы. Гэта павышэнне лічыцца першым этапам у запланаванай кампаніі на павышэнні заработнай платы педагагічным і медыцынскім работнікам, якая будзе доўжыцца да 2025 года і к гэтаму тэрміну вырасце ў два разы.

На колькі рэальна сталі больш зарабляць урачы, медсёстры і педагогі з 1 верасня?

Як вынікае з паведамлення прэс-службы Міністэрства аховы здароўя, у верасні ў параўнанні са жніўнем 2018 сярэдняя заработная плата ў ахове здароўя вырасла ўсяго на 31,9 рубля. Прычым урачы ў сярэднім зарабілі на 84,6 рубля больш, і іх сярэдняя зарплата павялічылася з 1140,5 да 1225,1 рубля. У сярэдніх медыцынскіх работнікаў прыбаўка была меншай – 41,4 рубля, і такім чынам іх зарплаты павысіліся з 728,0 да 769,4 рубля.

Настаўнікі ў верасні ў параўнанні са жніўнем атрымалі больш толькі на 42 рублі і такім чынам іх зарплаты ў сярэднім склалі 803,6 рубля.

Дарэчы, у Міністэрстве аховы здароўя падкрэсліваюць, што па ўзроўні зарплаты сярод сацыяльных галін ахова здароўя па выніках студзеня–верасня заняла першае месца.

**Памер сярэднямесячнай заработнай платы (студзень–верасень 2018 г.):**
ахова здароўя – 729, 4 рубля
адукацыя – 634,0
культура – 560,7
сацыяльныя паслугі – 538,7 рубля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ФАКТ

## Бензін падаражэе на 17 працэнтаў?

*«У доларавым эквіваленце падараванне склала 1 цэнт. Пры сённяшняй цане бараля справядлівая цана за літр АІ-92 – 77 цэнтаў»,* – сказаў віцэ-прэм'ер Ігар Ляшэнка падчас наведвання «Гродна Азот».

Зараз літр бензіна АІ-92 каштуе 1,40 рубля, гэта 66 цэнтаў у эквіваленце.

Каб адпавядаць «справядлівай цане», паліва мусіць падаражэць на 17% і каштаваць 1,63 рубля за літр.

ЧУЛІ?

## Серабранку чакае рэканструкцыя

Звычайна пад рэканструкцыю трапляюць нейкія адзіночныя аб'екты, а тут – цэлы сталічны мікрараён "Серабранка". З 19 лістапада па 13 снежня ў сярэдняй школе №164 г.Мінска пройдзе грамадскае абмеркаванне праекта дэтальнай планіроўкі тэрыторыі, якая ахопліваe раён вул.Ванеева – пр.Ракасоўскага – вул.Пляханава – вул. Якубава – мяжа ландшафтна-рэкрэацыйнай зоны 158 ЛР.

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА



## Саміт АДКБ у Астане

Учора, 8 лістапада, у Астане прайшоў саміт Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы. Спачатку было пасяджэнне кіраўнікоў Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі і Таджыкістана ў вузкім складзе. Разглежданы актуальныя праблемы міжнароднай і рэгіянальнай бяспекі і ўзаемадзеяння ў фармаце АДКБ. Прынята рашэнне накont палажэння аб Цэнтры крызіснага рэагавання АДКБ.

СОТРУДНИЧЕСТВО

## На несколько десятков миллионов долларов...

В Шанхае проходит Первая китайская международная выставка импортных товаров и услуг (CIIE). За несколько дней работы выставки Беларусь уже подписала более 15 контрактов, меморандумов, соглашений на несколько десятков миллионов долларов.

Заместитель главы Администрации президента **Николай Снопков,** выступая на белорусско-китайском деловом форуме, который прошел на площадке CIIE, отметил, что Беларусь успешно прошла этап выхода на китайский рынок и создания каналов сбыта продукции в КНР и теперь стоит задача закрепиться на этом рынке. *«Этот год – прорывной для белорусского экспорта в Китай»,* – цитирует Снопкова БЕЛТА. – *За 8 месяцев наш экспорт в КНР, включая Тайвань, Сянган и Аомэнь, вырос на 18%. Экспортный прорыв обеспечен за счет экспорта продовольствия в пять раз, в том числе экспорта молочной продукции в девять раз».*

ЛІЧБЫ

## Пераводы беларусам з-за мяжы скараціліся

Як паведамляе Нацыянальны банк Беларусі, агульная сума грашовых пераводаў, атрыманых у Беларусі праз міжнародныя сістэмы, у ІІІ квартале склала 72,6 мільёна долараў у эквіваленце (год таму – 82,6 мільёна). Пераводы, адпраўленыя з Беларусі, захаваліся на ўзроўні 45,4 мільёна долараў у эквіваленце.

Сярэдняя сума аднаго грашовага пераводу з-за мяжы – 270 долараў. Пры гэтым з краіны адпраўляюць у сярэднім па 393 долары.

ДЫПКУР'ЕР

## Артур МІХАЛЬСКІ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі:

# «Мы павінны наша суседства ўспрымаць як шанец, а не як пагрозу»

*11 лістапада Польшча адзначае Дзень незалежнасці. Мы вырашылі, што гэта добрая нагода запрасіць на інтэрв'ю і пазнаёміць нашых чытачоў з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Польшча ў Беларусі Артурам МІХАЛЬСКІМ, які ўзначаліў дыпмісію ў Мінску ў маі гэтага года.*

**«Моцная нацыянальная ідэя свабоды і незалежнасці заўсёды жыла ў нашых сэрцах, нават калі афіцыйная версія была іншай»**

**– Спадар Пасол, Польшча ў гэтым годзе адзначае 100-годдзе вяртання незалежнасці. Што для вас значыць гэта свята?**

– Гэта вялікае свята. Сто гадоў таму тысячагадовая Польская Дзяржава зноў стала незалежнай. Шматнацыянальная Рэч Паспалітая пасля 123 гадоў існавання пад гнётам суседніх імперый – Прусіі, Аўстрыі і Расіі – зноў з'явілася на карце Еўропы. 1918 год быў важным для палякаў, а таксама для беларусаў, якія ў сакавіку адзначалі 100-годдзе ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Як палякі мы выстаялі і зноў сталі свабоднымі, таму што ніколі не пагадзіліся з тым, што нехта іншы будзе вырашаць наш лёс. Нас выратавала мова, культура, вера, моцнае пачуццё супольнасці, усведамленне багатай гісторыі.

**– Беларусы з зайздрасцю глядзяць на поспехі сучаснай Польшчы. Ментальна мы вельмі падобныя, вельмі многа было агульнага ў нас, але сёння ўзровень жыцця ў Польшчы вышэйшы, чым у Беларусі. Мы ездзім да вас «на закупы», усё больш беларусаў едзе ў Польшчу на работу. На ваш погляд, у чым аснова поспеху эканомікі Польшчы?**

– Амаль 30 гадоў таму палякі прынялі рашэнне сімвалічна вярнуцца ў Еўропу, пачаць будаваць дэмакратыю і свабодны рынак. Пасля Другой сусветнай вайны, на жаль, лёс Польшчы вырашалі сусветныя дзяржавы і геапалітыка. Дзесяцігоддзямі мы не маглі развівацца ў адпаведнасці з уласнымі планамі і бачаннем. Гэта стала магчымым толькі пасля змен у нашым рэгіёне ў 1989 годзе, якія адбыліся дзякуючы перабудове, і раней – утварэнню незалежнага прафсаюза «Салідарнасць». У духоўным плане нас мабілізавалі першы Папа рымскі – славянін і паляк Ян Павел ІІ, які падчас свайго славутага візіту ў Польшчу ў 1979 годзе сказаў знакавыя словы: "Не бойцеся! Няхай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі, гэтай зямлі". Для палякаў гэта быў пераломны момант у духоўным і маральным плане.

Калі я азіраюся назад



і думаю, чым Польшча адрознівалася ў гэтак званым сацыялістычным лагеры, то думаю, што мы можам гаварыць пра чатыры асноўныя фактары: мы захавалі прыватную ўласнасць у сферы паслуг, а таксама ў абмежаваным аб'ёме ў галіне вытворчасці – калі прыйшоў адпаведны момант, большасць палякаў была гатова весці ўласную гаспадарчую дзейнасць. Другі важны момант – гэта захаванне (таксама ў абмежаваным аб'ёме) прыватнай уласнасці на зямлю, мы захавалі сялянства – тую частку грамадства, якая ведае, што значыць гаспадарыць на ўласнай зямлі. Трэцяе фундаментальнае адрозненне – гэта вельмі важная роля Каталіцкай царквы як фундамента традыцыйных каштоўнасцяў, своеасаблівая імунная сістэма супраць ідэалогіі сілы і таталітарных злоўжыванняў.

У якасці чацвёртага фактара я назваў бы вельмі моцную нацыянальную ідэю свабоды і незалежнасці, гэта заўсёды жыло ў нашых сэрцах, нават калі афіцыйная версія была іншай. Вельмі паказальны прыклад: у Польшчы кожны ведаў, што менавіта НКУС несла адказнасць за Катынскае злачынства, забойства амаль 20 тысяч польскіх афіцэраў у 1940 годзе, нягледзячы на тое, што ў школе нас спрабавалі пераканаць, што злачынства здзейснілі немцы. Сямейная праўда аказалася мацнейшай, чым афіцыйная прапаганда.

**– Сёння на чым ваша краіна ў асноўным зарабляе?**

– Польшча – член Еўрапейскага Саюза, мы супрацоўнічаем з партнёрамі ў рамках адзінага рынку без мытных бар'ераў, са свабодным перамяшчэннем людзей, капіталу і паслуг. Гэта асноўны рухавік нашага развіцця. Акрамя таго, мы стараемся развіваць і дасканаліць тое, што ўмеем рабіць спрадвеку, напрыклад, сельскую гаспадарку і вытворчасць прадуктаў харчавання, а таксама развіваць новыя галіны, такія як сучасная прамысловасць, сучасныя тэхналогіі і паслугі. Высокія эканамічныя паказальнікі і рэкордна нізкі ўзровень беспрацоўя пацвярджаюць, што гэта прыносіць свае вынікі.

**– А чаму Польшча не пераходзіць на еўра?**

– Урад і эксперты лічаць, што пакуль для нас гэта не будзе вельмі карысным, таму што нам трэба зраўняць узровень жыцця з краінамі Заходняй Еўропы. Увядзенне еўра можа выклікаць павышэнне цэн і збядненне грамадства. Акрамя таго, мы вельмі прывязаны да сваёй валюты – польскага злотага. Магчыма, мы вернемся да абмеркавання гэтага пытання пазней.

**– Палякі сёння задаволены ўзроўнем свайго жыцця?**

– Падаецца, што так, паколькі заробкі растуць, а ўзровень беспрацоўя зніжаецца. Значна палепшылася матэрыяльнае становішча самых бедных слаёў насельніцтва дзякуючы шчодрай сацыяльнай праграме, магчымай дзякуючы таму, што польская эканоміка развіваецца вельмі дынамічна. Але яшчэ шмат неабходна зрабіць у параўнанні з самымі багатымі краінамі ЕС.

*(Заканчэнне на 5-й стар.)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Возврат долга

Налоговая служба Финляндии собрала налогов больше, чем следовало. Почти 3 миллиарда евро сверх запланированного. И вместо того, чтобы положить их в какой-нибудь правительственный или президентский фонд, постановила: вернуть их гражданам.

Вы когда-нибудь слышали, чтобы белорусское государство возвращало своим гражданам деньги? А ведь совсем недавно был подходящий, с моей точки зрения, случай. Я все о том же незаконнорожденном, бессмысленном и беспощадном декрете о тунеядцах. Помните, как заставляли граждан платить подати на том лишь основании, что они нигде формально не числятся? Так вот, какие-то копейки тогда собрали. И, помнится, декрет отменили, но деньги не вернули. Пустили латать очередную статью в бюджете. Так сказать, внеплановые поступления.

Но это – на высшем уровне. А вот пример на низшем. После вступления в действие столь же бессмысленного и беспощадного жилищного законодательства граждане должны теперь через своих уполномоченных заключать договоры об уборке прилегающей к домам территории и своих подъездов с другой стороной – с частной фирмой либо с государственным ЖЭСом. Наш дом, оказывается, такой договор не заключил. Просто срок действия полномочий главы кооператива давно истек, а ЖРЭО – структура, казалось бы, вполне заинтересованная, – назначить уполномоченного из числа жильцов так и не решилась. И им самим никто так и не сообщил, что необходимо это сделать. Поэтому с момента вступления в действие вышеупомянутых поправок в законодательство наши подъезды никто не убирает начиная с июля.

Кто виноват? «Жильцы дома №40 по улице Белецкого!» – радостно скажут мне представители столичных властей. И я их с удовольствием выслушаю, а потом спрошу со столь же радостным видом:

– Замечательно! Но ведь деньги мы продолжали исправно платить за все услуги. Жировка наша «легче» не стала, и в ней, кстати, так и не расписано, за какие именно услуги мы платим. Получается, что мы и не знали, что с нас деньги за уборку продолжают взимать…

Стоп! Или – не взимают? Но тогда почему никто не уведомил жильцов, что с нас деньги за уборку домов и прилегающей территории не взимают?

Я начал разбираться. И тут выяснилось, что, оказывается, уже добрый месяц и прилегающую к дому территорию действительно не убирают! Оказывается, наш ЖЭС … проиграл тендер на уборку территории. Просто тендер осуществляется по принципу: кто дешевле попросит, тот и выиграл. А ЖЭС – предприятие вполне государственное, ниже предусмотренных расценок опустить свое предложение не может. Поэтому дворники были уволены, а нашу территорию начала обслуживать частная компания, которая довольно скоро поняла: одно дело – выиграть тендер, и совсем другое – на явно заниженную (по ее же собственной заявке!) сумму убирать опавшую осеннюю листву, грязь, образовавшуюся в результате внеочередной замены водопроводных труб, а чуть позже еще и расчищать снег и лед. Компания признала, что она проиграла соревнование с природой, и наша территория вновь была выставлена на тендер по тому же принципу. Говорят, что ЖЭС опять его проиграл – все по той же причине.

При этом жильцам опять ничего не объяснили. А деньги, которые мы все это время добросовестно платили за полноценное обслуживание нашего дома, разумеется, никто нам и не собирается возвращать. Действительно – а зачем? В жировке ведь не расписано, за какие именно коммунальные услуги с нас взимают деньги. За электроэнергию, воду и отопление мы платим отдельно. А за все остальное?

Беларусь – не Финляндия. Нам до Германии сорок лет, как выяснилось, пешком топать и топать. Финляндия, конечно, поближе будет, однако, боюсь, тамошнее социальное государство – слишком честное, раз уж готово вернуть гражданам три миллиарда евро. Нам явно никто ничего возвращать не будет. Ни тем, которых объявили «тунеядцами», а после сами же соорудили выход из создавшегося тупика. Ни тем, с кого продолжают взимать деньги за якобы предоставленные услуги, услуг на самом деле не предоставляя.

И вот сейчас, отвечая на вопрос, кто виноват, я с уверенностью поддержку родные коммунальные службы:

– Мы виноваты. Были бы мы граждане – знали бы свои права и воевали бы за них, требуя не только с коммунальных служб, но и с депутатов местных Советов, которые должны были первыми проинформировать нас о происходящем и посоветовать, как защитить наши права. И с депутатов нашего якобы парламента, которые примут предложенный правительством закон, а как он будет исполняться на практике – им в большинстве случаев по барабану. И с правительства, потому что до тех пор, пока оно будет думать, простите за прямолинейность, о собственных задницах больше, чем о последствии принимаемых им решений и предлагаемых им законопроектов, ничего у нас не изменится.

Но мы все – увы – не граждане. Все, включая даже родную оппозицию. Ибо сурков, просыпающихся к выборам, гражданами тоже назвать язык не поворачивается, уж простите.

А вот за горячих финских парней я искренне рад. Население Финляндии составляет сегодня 5.597.876 человек. Разделите на них три миллиарда евро. Получится примерно по 535 евро и 91 евроцент. На выпивку хватит.

Ах да! У них же там сухой закон… Ничего, найдут применение. Главное – не давать их белорусскому государству. Фиг потом назад получишь.

ЗА РУЛЕМ

## Нетрезвые, без прав, без техосмотра…

За обычный субботний вечер и два ночных часа сотрудники ГАИ выявили в Солигорском районе 90 нарушений. Рейд Минской областной ГАИ проводился на Солигорщине с 17 часов 3 ноября до 2 часов ночи 4 ноября.

По данным УГАИ УВД Миноблисполкома, за рулем в нетрезвом состоянии попались 8 водителей, у 16 человек не было прав на управление транспортным средством. Семеро перевозили несовершеннолетних с нарушением ПДД, а транспортные средства шестнадцати владельцев не прошли техосмотр. В стороне не остались и пешеходы – 34 нарушения.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Гора ад… вады



З 2012 года частка жыхароў вёскі Машталеры Гродзенскага раёна не може карыстацца вадой са сваіх студняў з-за таго, што яна не адпавядае санітарным нормам, а падчас дажджоў і паводкі затапляе скляпы. Але ніхто не можа знайсці выйсця з гэтай сітуацыі.

### Крамнік падтапіў…

Вёска Машталеры Гродзенскага раёна знаходзіцца блізка ля рэчкі Пыранкі, некаторыя дамы стаяць амаль на беразе. Уздоўж вёскі і зараз праходзіць меліярацыйны роў, які адводзіць ваду з мясцовых сажалак у раку. Аднак у 2012 годзе функцыянальнасць яго была парушана.

Жыхарка Машталераў **Галіна Дзербыш** распавядае, што праблемы пачаліся пасля таго, як новы ўласнік будынка былой райпоўскай крамы, якая знаходзілася побач з меліярацыйным рвом, раўняючы свой зямельны надзел, засыпаў яго і выкапаў побач з домам сажалку. Гэта было яшчэ ў 2012 годзе. У выніку сцёкі перасталі трапляць у рэчку, а на месцы часткі былога меліярацыйнага рову ўтварылася балота.

Спадарыня Дзербыш распавядае, што пасля гэтага скляпы ў бліжэйшых хатах пачало затапляць. Людзі забілі трывогу і пачалі звяртацца да ўлад.

– *Прыязджалі меліяратары са Скідзеля і прыйшлі да высновы, што патрэбна аднавіць меліярацыйны роў. Але да іх заключэння начальства не прыслухалася,* – кажа спадарыня Дзербыш.

Жыхары Машталераў са скаргамі дайшлі да старшыні Гродзенскага аблвыканкама. Пракапалі новы роў, але не на тым месцы, дзе ён быў, а далей на ўзвышшы, за сажалкай. У выніку ніякага эфекту роў не даў, паколькі вада стала падтапляць скляпы ў дамах, да якіх раней не даходзіла.

### «Самае страшнае, што мы не можам карыстацца вадой са студні»

Праблемай у часткі жыхароў Машталераў стала не толькі тое, што вада прыйшла ў іх скляпы, але і тое, што ў студнях яна пачала жаўцець. Жыхарка Машталераў **Ірына Дзеніс** згадвае, што ў яе і яе непаўнагадовай дачкі ў той час пачаліся праблемы са здароўем. Спадарыня Дзеніс не можа сцвярджаць, што гэта менавіта з-за вады, але калі санэпідэмстанцыя ўзяла пробы з іх студняў, то дала заключэнне, што вада не прыдатная для піцця. Цяпер яны ёй не карыстаюцца.

«*Уявіце, што для піцця і гатавання стравы мы з дачкой ваду вымушаны купляць у краме і прывозіць з Жытомлі,* – кажа спадарыня Ірына. – *Напачатку, праўда, спрабавалі браць у суседа, бо ён там фільтры паставіў, але калі пабачылі заключэнне санстанцыі, што і з ягонай студні вада не адпавядае нормам, перасталі. Для нас гэта вельмі складана і нязручна дый і нятанна*».

Сусед насупраць – **Барыс Даўгашэй,** ён кажа, што вадой са сваёй студні карыстаецца толькі для тэхнічных мэт, а для піцця ходзіць браць ваду ў вёску.

«*Мне санстанцыя дала прадпісанне, каб я накрыў студню, зрабіў адмостку, прафілактычную ачыстку, дэзінфекцыю, але які ў гэтым сэнс, калі не толькі ў мяне, але і ўва ўсіх побач, дзе нават студні належна абсталяваны, неаднойчы чысціліся, вада ў іх з жоўтым адценнем і непрыемным смакам*», – кажа спадар Барыс.

### «Мы атрымалі адпіскі…»

Жыхары Машталераў са сваімі скаргамі дайшлі да Адміністрацыі прэзідэнта. Праўда, адтуль іх скаргі пачалі спускацца ўніз. Адзін з адказаў машталерцы атрымалі ад генеральнага дырэктара АУП «Гроднамеліяводгас» **Барыса Багданца**.

Паводле вынікаў працы камісіі, якая выязджала ў Машталеры для даследавання сітуацыі, аказалася, што «ўзровень вады ў рацэ Пыранка ніжэй на 90 см узроўню вады ў скляпах вяскоўцаў, узровень вады ў вадаёме грамадзянкі Т.Кісель *(на яе ўчастку засыпана частка меліярацыйнага канала. – «**НВ**»)* і на мясцовасці за вёскай ніжэй на 54 см узроўню вады ў скляпах». І як вынік: рэчка Пыранка і вадаём Кісель не ўплываюць на ўзровень вады ў скляпах жылых дамоў.

Праўда, адмыслоўцы так нічога і не напісалі ў сваім заключэнні, што рабіць вяскоўцам, у скляпах якіх стаіць вада. Што тычыцца студняў, то парады прагучалі.

Былі праведзены лабараторныя даследаванні проб вады ў чатырох студнях Машталераў. Ва ўсіх вада не адпавядае гігіенічным нарматывам па мікрабіялагічных паказчыках. Уладальнікам студняў накіраваны прадпісанні папярэджання аб правядзенні прафілактычнай ачысткі і дэзінфекцыі індывідуальных шахтных студняў.

Старшыня сельсавета **Валерый Смалей** у размове з карэспандэнтам «Народнай Волі» параіў вяскоўцам выканаць прадпісанні санэпідэмстанцыі: пачысціць свае студні і піць чыстую ваду. Маўляў, сельсавет не можа правесці ў Машталеры водаправод, а таму пра ваду трэба дбаць самім.

Праўда, ён усё ж дадаў, што існуе праблема і з меліярацыяй, яе трэба праводзіць па-новаму, але калі гэта адбудзецца, паводле яго слоў, невядома. Маўляў, патрэбна найперш правесці падрыхтоўку, зрабіць праект, запланаваць сродкі, бо ў адзін дзень гэта не робіцца.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На фото: Галіна Дзербыш паказвае, якую ваду са студні дастаюць яе аднавяскоўцы.**

ПЕРСОНА

Валерий ЦЕПКАЛО:

# «За неделю зарабатываю свою прежнюю двухмесячную зарплату…»

*Создатель и экс-глава Парка высоких технологий, дипломат, эксперт Генерального секретаря ООН Валерий Цепкало устраивает публичную лекцию.*

*Как создать собственный стартап? Что такое искусственный интеллект? Что такое блокчейн и надо ли инвестировать в криптовалюту? Где найти инвестиции и как стать успешным без помощи правительства?*

*Об этом и многом другом Валерий Цепкало расскажет 22 ноября в конференц-зале отеля «Виктория-Олимп».*



Как сообщала «Народная Воля», новость об отставке Валерия Цепкало с поста директора государственного учреждения «Администрация Парка высоких технологий» появилась в марте прошлого года. Что стало причиной этого кадрового решения – до сих пор толком не известно.

Сегодня Валерий Цепкало консультирует правительства разных стран в области создания инновационных инфраструктур, а также выступает ментором для ряда зарубежных стартапов.

Например, летом минувшего года в Узбекистане создали Инновационный центр по поддержке разработки и внедрения информационных технологий. И именно Валерий Цепкало консультировал правительство Узбекистана по поводу развития IT-индустрии.

В Узбекистане Цепкало не раз рассказывал о том, какие трудности ему пришлось преодолеть, создавая Парк высоких технологий, в эффективность работы которого тогда, похоже, верил лишь он сам.

«*Когда я приехал из Америки и начал предлагать создание белорусского аналога американской Кремниевой долины, естественно, никто к этому серьезно не относился. Ни ко мне, ни к этой затее,* – вспоминает Валерий Вильямович. – *Считалось, что я приехал с какими-то вредными идеями, а западноевропейский опыт абсолютно не применим к нашей структуре экономики, политической системе. Для убеждения мне потребовалось порядка 15 месяцев.*

*Документ о создании Парка высоких технологий был подписан в 2005 году, но все бюрократические процедуры завершились только в 2006 году. Когда мы стартовали, через три-четыре месяца у нас было четыре резидента. Отрасль находилась в зачаточном состоянии. Один резидент вышел из бизнеса. Нужно понимать, что не всем гарантированы процветание и успех, это рыночная среда. Когда создается такая среда, банкротство одной компании никак не сказывается на индустрии в целом, потому что люди не пропадают — они устраиваются на работу в другие компании*».

Наверняка о Парке высоких технологий Цепкало будет говорить и на своей публичной лекции. Кстати, это будет первый выход Валерия Цепкало на публику после отставки.

«*Мне предложили выступить, и я согласился*, – рассказал Валерий Вильямович «Народной Воле». – *Можно сказать, уговорили*».

В Беларуси Валерия Цепкало застать трудно – он колесит по миру.

«*И горизонты расширяются*, – говорит он. – *Я начинал с СНГ, а сейчас, например, мы делаем в Малайзии первое в этой стране ICO (криптовалютный краудфандинг) – в декабре должен туда лететь. Тоже интересная история может быть. Это, конечно, не совсем IT, но по крайней мере это то, о чем у нас в ПВТ заявили, но пока еще не делали. А в других странах это уже реализовывается. Поэтому хочу посмотреть, поучаствовать в этом…*»

Как близкие реагируют на частые и длительные путешествия Валерия Цепкало?

«*Я надолго не улетаю – максимум на неделю, так что все нормально!*» – улыбается он.

Когда речь заходит об экс-главе ПВТ, некоторые до сих пор качают головой и с сожалением говорят: мол, такой современный, умный и вынужден скитаться по всему миру, а в родной Беларуси должности для него не нашлось! А другие отмечают: ну и молодец, не пропал, нашел себя. Какое из этих двух мнений ближе самому Цепкало?

«*Мне себя не жаль*, – говорит он. – *Я сейчас больше выступаю как консультант, и за одну неделю зарабатываю свою прежнюю двухмесячную зарплату. Плюс абсолютно свободен. Никаких совещаний, отчетности, глобальной ответственности. Все совершенно по-другому! Делаю что хочу и езжу куда хочу. Это же просто супер!*»

**Марина КОКТЫШ.**

НЕСТАНДАРТ

# «Грамадскі транспарт не можа быць месцам прапаганды сімволікі чужой дзяржавы»

*Жыхар Лідскага раёна Валерый Мінец ужо не першы год вядзе барацьбу з тым, каб у беларускіх аўтобусах не выкарыстоўвалі сімволіку іншых краін. Ён перакананы: калі насамрэч змагацца, то можна нечага і дамагчыся.*

Апошнім разам Валерый зрабіў заўвагу кіроўцу аўтобуснага парка №2 г.Ліды Івану Пышынскаму за тое, што на лабавым шкле ягонага аўтобуса быў прымацаваны расійскі трыкалор. Папрасіў яго зняць, але той, паводле слоў Мінца, груба і абразліва, прычым з выкарыстаннем нецэнзурнай лексікі, адмовіў у ягонай просьбе.

Пасля гэтага Мінец звярнуўся са скаргай да кіраўніка аўтапарка №2 г.Ліды А.Лапуця, распавёўшы пра сітуацыю, якая з ім адбылася ў грамадскім транспарце:

«*Я напісаў, што не маю нічога супраць уласных поглядаў і сімпатый людзей да самых розных сімвалаў, але падкрэсліў, што грамадскі транспарт не можа быць месцам прапаганды сімволікі чужой дзяржавы. Я лічу, што ў дзяржаўным транспарце не можа знаходзіцца іншая сімволіка, акрамя як нашай краіны*».

Валерый прасіў адміністрацыю прадпрыемства прыняць адпаведныя захады ў дачыненні да кіроўцаў, якія займаюцца, паводле яго меркавання, прапагандай сімволікі іншых краін у грамадскім транспарце, а таксама даць належную ацэнку падобнай з'яве.

Адказ, як згадвае Мінец, не прымусіў сябе чакаць. Дырэктар аўтапарка №2 г.Ліды А.Лапуць паведаміў, што па факце скаргі праведзена праверка і кіроўца аўтобуса Іван Пышынскі «*дэпрэміраваны ў памеры 50%, апроч таго з ім праведзена прафілактычная гутарка пра некарэктнасць выкарыстання дзяржаўнай сімволікі ў салоне транспартнага сродку і культурным абслугоўванні пасажыраў*».



«*Адказ дырэктара аўтапарка, з аднаго боку, задаволіў у канкрэтным выпадку, але я бачу, што наогул падобная тэндэнцыя ў Гродзенскай вобласці захоўваецца, і таму вырашыў напісаць ліст да кіраўніка «Гроднааблаўтатранса» Д.Харчанкі*», – кажа Мінец.

Валерый просіць генеральнага дырэктара ААТ «Гроднааблаўтатранс» выдаць загад, які будзе рэгламентаваць забарону выкарыстання ў грамадскім транспарце сімволікі замежных дзяржаў.

«*Тлумачальныя размовы з кіроўцамі не даюць належнага эфекту. Сцвярджаю гэта на прыкладзе аўтапарка №2 г.Ліды, бо бачу, што насуперак рознага кшталту тлумачальным размовам канчаткова не зніклі з гарадскіх аўтобусаў георгіеўскія стужкі*», – канстатуе Мінец.

«*Нідзе ў свеце не пабачыш, каб людзі ў сваёй краіне выстаўлялі напаказ чужыя сцягі, а свае недзе хавалі*, – кажа Валерый Мінец. – *Крыўдна, бо Беларусь мае сваю ўласную гісторыю, свае сімвалы і сваю дзяржаўнасць. А некаторым людзям карціць схіляць голаў перад чужым. І гэта яшчэ ў лепшым выпадку, бо даводзіцца нават чуць абразлівае ў бок нашых сімвалаў*».

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

**На фота: Іван Мінец у цэнтры.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
9 ЛІСТАПАДА 2018 г.

РАКУРС

# Завязваем?

*У Беларусі за апошнія 3 гады значна знізілася спажыванне алкагольнай прадукцыі, заявілі спецыялісты.*



У мінулым годзе з наркалагічнага ўліку ў стадыі рэмісіі – гэта значыць, што чалавек не ўжываў алкаголь больш за 1 год, – былі зняты 13 тысяч 620 чалавек.

І гэта не апошнія станоўчыя дадзеныя. Як вядома, апошнім часам Беларусь узгадвалася як амаль што самая пітушчая нацыя ў свеце – летась эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) паставілі нас на другое месца ў рэйтынгу па колькасці спажыванага насельніцтвам алкаголю – на аднаго беларуса, старэйшага за 15 гадоў, прыпадала 15 літраў алкаголю ў год, больш за нас пілі толькі літоўцы – у сярэднім 16 літраў на чалавека. Нашы чыноўнікі тады аспрэчвалі гэтыя лічбы, казалі, што СААЗ, складаючы такі рэйтынг, улічвае спажыванне таксама і незарэгістраванага алкаголю, але гэтыя лічбы нідзе афіцыйна не фіксуецца, яны розныя ў розных рэгіёнах.

І вось зараз, згодна з апошнімі статыстычнымі дадзенымі (дадзеныя аналізаваліся за 2015–2017 гады), аказалася, што піць беларусы сталі значна менш. Спажыванне чыстага спірту на душу насельніцтва ў Беларусі склала парадку 11,2 літра абсалютнага алкаголю ў год. І такім чынам наша краіна ў гэтым сумным рэйтынгу апынулася на 23-м месцы ў Еўропе і 27-м у свеце. Перад намі аказаліся Малдова, Літва, Чэхія, Расія і нават Германія.

Завязалі ці па-іншаму падлічылі?

– *Зніжэнне адбылося ва ўсіх краінах Еўропы, асабліва ў Беларусі, Расіі, Малдове. Методыка разліку (у параўнанні з 2010 годам) не змянялася. Аднак цяпер у працэсе аналізу і падліку вельмі цесна супрацоўнічалі штаб-кватэра Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, Белстат і Міністэрства аховы здароўя,* – адзначыў кіраўнік краінавага офіса СААЗ у Беларусі **Батыр Бердыклычаў.**

Але казаць аб зніжэнні актуальнасці праблемы ў сувязі са станоўчай дынамікай заўчасна. «*У структуры спажыванай беларусамі алкагольнай прадукцыі амаль палову (49%) займаюць моцныя спіртазмяшчальныя напоі. На афіцыйным уліку ў нарколагаў стаіць каля 170 тысяч чалавек, з іх каля 40 тысяч жанчын і 15 тысяч непаўналетніх*», – сцвярджаюць спецыялісты.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Долговая пирамида

Министерство финансов принимает меры для сокращения уровня государственного долга, заявил недавно министр финансов Беларуси М.Ермолович. На 1 октября накопленный государственный долг достиг 44,6 млрд рублей. Внешний – 16,5 млрд долларов, внутренний – 9,6 млрд рублей. Три четверти внутреннего госдолга – это тоже валютные заимствования правительства. По отношению к ВВП совокупный госдолг подбирается к его половине, а с учетом заимствований, по которым выданы гарантии правительства, он уже превысил 50% ВВП.

Для развивающихся экономик, к которым можно отнести и белорусскую, госдолги больше половины ВВП – это пересечение красной черты. Развитые государства могут позволить себе и больше. Но это развитые. Кроме того, в этих странах в обращении находятся валюты, которые относятся к мировым. Нам же доллары или евро приходится зарабатывать. В основном за счет экспорта.

Каждый год от 3,5 и более миллиардов долларов Беларусь выплачивает в счет погашений госдолга. В 2019 году Минфин должен вернуть кредиторам правительства 3,9 млрд долларов. И каждый год три четверти госдолга правительство рефинансирует, то есть перезанимает. Лишь одну четверть погашает за счет собственных источников.

Этой проблемой в очередной раз озаботился и новый премьер Сергей Румас, заявив, что каждый седьмой рубль из бюджета сегодня идет на обслуживание госдолга. При этом он отметил, что около 45% долга – это долги предприятий по кредитам, привлекавшимся под гарантии правительства и оказавшимся не слишком успешными. Надо думать, речь идет в первую очередь о связанных китайских кредитах. Можно эту проблему проецировать и на строящуюся на российские кредиты Белорусскую АЭС, электроэнергию от которой неизвестно кто будет покупать.

Как тут не вспомнить старую поговорку: семь раз отмерь, один раз отрежь! Но, похоже, белорусские власти игнорируют ее. А потому если в 1996 году государственный долг был всего 946,9 млн долларов, то в 2008 году уже составлял 3 млрд 719 млн долларов. Затем рванул так, что, как видим, собственными усилиями с ним уже никак не справиться.

Глава государства, выступая с нынешним ежегодным посланием, заявил: «Главный вызов, с которым надо справиться правительству и Нацбанку, – перерасти долговую нагрузку и выйти в зону безопасности». И продолжил: «Будущим поколениям мы должны оставить Беларусь без долгов». А тем временем с начала 2018 года госдолг вырос на 2,4 млрд рублей.

Если власти будут и впредь так же охотно перезанимать, то долговое бремя будет увеличиваться и дальше. Как и раньше, это будет выливаться в недоданные зарплаты учителям и врачам, в стыдные пенсии, во все более платное здравоохранение, то есть во все большее недофинансирование прежде всего социальной сферы. Подсчитано: если бы правительство не прибегало к перекредитованию, то доля расходов на выплату госдолга достигла бы 40% всех бюджетных трат. В такой ситуации государство официально объявляет о приостановке обслуживания государственного долга, или, как сейчас модно говорить, о дефолте.

Поэтому правительство вновь и вновь изыскивает источники рефинансирования нашего суверенного госдолга. И в этом деле, надо сказать, руку набило. Оно нашло эти источники на текущий год, находит уже и на следующий. По проекту бюджета на 2019 год Минфин на погашение и обслуживание валютной части госдолга направит, как всегда, пошлины от экспорта нефти, нефтепродуктов и калийных удобрений. Их может набраться до 1 млрд долларов. По договоренности с Россией мы должны получить 766 млн долларов от реэкспорта («перетаможки») 6 млн тонн сырой российской нефти. Минфин рассчитывает получить 630 млн долларов из запрашиваемого на цели рефинансирования кредита из бюджета восточной соседки. 500 млн Минфин надеется получить от размещения своих облигаций на китайском финансовом рынке (продать панда-бонды). Правительство также планирует в первом квартале следующего года получить последний транш ЕФСР в размере 200 млн долларов. На внутреннем рынке Минфин продолжит работу по размещению своих облигаций на сумму 370 млн долларов. Так или иначе, но власти надеются наскрести до 3,5 млрд долларов из необходимых 3,9 миллиарда. Остальное – из собственных источников. Надеются и на то, что население останется чистым продавцом валюты. Кстати, это наблюдается 30 последних месяцев. Без нас, соотечественники, новому правительству придется туго.

И так денежные власти выкручиваются каждый год, но совокупный долг-то растет и растет исторически ускоренными темпами. Внешнего госдолга на каждого белоруса, включая детей и пенсионеров, уже приходится 1736 долларов. Правительству необходимо не только справиться с долгами, но и наращивать, хотя бы скромно, слабые золотовалютные резервы страны. Для этого следует прекратить неразумную раздачу кредитов, которые, как показывает практика предшественников, не оправдывает себя, и которые приходится возвращать бюджету за счет валютных резервов. То есть всем миром. Надо не расточать заявления насчет необходимости снижать госдолг, а что-то конкретное делать по изменению нынешней модели экономики, которая завела нас в ловушку долговой пирамиды.

СЦЕНА

# Михаил Козинец отмечает 80-летие музыкальным марафоном



**Три юбилейных концерта, посвященных 80-летию известного белорусского дирижера, народного артиста Беларуси, лауреата Государственной премии, профессора Михаила Козинца, пройдут 9, 18 и 23 ноября в Большом зале Белгосфилармонии.**

Более 40 лет Михаил Козинец возглавляет Национальный академический народный оркестр Беларуси им.Жиновича.

9 ноября в Большом зале Белорусской государственной филармонии состоится первый концерт юбилейного музыкального марафона Михаила Козинца. В этот вечер маэстро встанет за пульт Государственного академического симфонического оркестра Республики Беларусь (главный дирижер – народный артист Беларуси **Александр Анисимов**). Вместе с симфоническим оркестром выступит скрипач-виртуоз, лауреат и победитель множества престижных международных конкурсов **Артем Шишков**.

18 ноября публике будет представлен один из значительных проектов музыкальной эпопеи маэстро Козинца. За свою долгую жизнь в искусстве он был первым исполнителем десятков новых произведений современных белорусских композиторов. Вот и для своего музыкального марафона Михаил Козинец готовит очередную премьеру. Это будет новое сочинение **Ларисы Симакович** «Скорина. Возвращение» – семь сцен из жизни Франциска Скорины для большого симфонического оркестра, хора и солиста.

23 октября публику ожидает грандиозный концерт с участием звезд академического и эстрадного искусства. По приглашению Михаила Козинца в сопровождении Национального академического народного оркестра Беларуси под его руководством будут петь ведущие солисты Национального академического большого театра оперы и балета: народные артисты Беларуси **Нина Шарубина** и **Анастасия Москвина,** лауреаты международных конкурсов, финалисты международного телепроекта «Большая опера» **Илья Сильчуков и Юрий Городецкий**.

Во втором отделении гала-концерта маэстро Козинец представит лучшие образцы эстрадной музыки. Выступят солисты оркестра, лауреаты международных конкурсов, певцы **Марина Василевская и Игорь Задорожный,** блестящие цимбалистки **Александра Денисеня, Галина Лозовик и Марта Голубко**, баянист-виртуоз **Денис Черный**, шоумен, автор проекта «Шоу барабанщиков» **Сергей Шептунов**.

В качестве хедлайнера приглашен **Петр Елфимов.**

Прозвучат отрывки из классических опер, арии из оперетт, романсы, популярные эстрадные песни **Владимира Мулявина, Игоря Лученка, Давида Тухманова** и многих других композиторов.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# 735 рублёў – за галоўны лозунг Кастрычніцкай рэвалюцыі «Долой самодержавие!»

*Актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікола Салянік і Уладзімір Лаўрэнцьеў 7 лістапада былі затрыманы ў цэнтры Гродна. Яны ішлі, трымаючы ў руках плакат «Долой самодержавие!».*




Мікалая Саляніка затрымлівалі жорстка, скруцілі рукі і ногі. Адзінае, што ён змог сказаць, гэта тое, што святкуе дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі, а словы на ягоным плакаце былі асноўным лозунгам той рэвалюцыі.

Абодвух даставілі ў Ленінскі РАУС, дзе склалі на іх пратаколы. У міліцыі Саляніку стала дрэнна, да яго выклікалі «хуткую дапамогу». Ён чалавек пенсіённага веку, хварэе на сэрца і мае другую групу інваліднасці. Зараз ён знаходзіцца ў кардыялагічным цэнтры Гродна.

Перад гэтымі падзеямі, раніцай 7 лістапада, Саляніка затрымала міліцыя побач з ягоным домам, на яго склалі пратакол апытання наконт удзелу ў акцыі па ўшанаванні паўстанцаў Каліноўскага ў Свіслачы, якая адбылася яшчэ ў кастрычніку. Адпусцілі Саляніка пасля таго, як на плошчы Леніна скончыўся мітынг, які праводзілі камуністы ў гонар 7 лістапада.

Тым не менш Салянік і Лаўрэнцьеў з плакатам «Долой самодержавие!» выйшлі да помніка Леніну, а потым ішлі па пешаходнай вуліцы Савецкай. Тут іх і затрымалі міліцыянты, пасля чаго даставілі ў Ленінскі райаддзел міліцыі. Учора Аляксандра Лаўрэнцьева судзілі ў Ленінскім раённым судзе Гродна па адміністрацыйнай справе. Ён пакараны штрафам у 30 базавых велічынь, што складае 735 рублёў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

БОЛЬ

# Як здароўе Ігара Лучанка?

*Стан знакамітага кампазітара, які ўжо каторы дзень знаходзіцца ў сталічнай Бальніцы хуткай дапамогі, застаецца стабільна цяжкім. Так кажуць дактары.*



Ігар Міхайлавіч па-ранейшаму знаходзіцца пад пільным наглядам медыкаў. Хутчэй за ўсё, да панядзелка яго не будуць здымаць з апаратаў, якія падтрымліваюць жыццядзейнасць арганізма.

Ігара Міхайлавіча кожны дзень наведваюць блізкія. Яны спадзяюцца на добрыя навіны. На гэта разлічваюць і ўсе прыхільнікі таленту легендарнага творцы.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

СОЛИДАРНОСТЬ

# «Требуем зарегистрировать...»

В Солигорский райисполком отправил письмо Президиум Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности. В нем – требование зарегистрировать первичную профсоюзную организацию Белорусского независимого профсоюза работников УСП «Трест «Реммонтажстрой».

Вот выдержки из письма.

«*Необоснованный отказ в регистрации первичной профсоюзной организации БНП дает достаточно оснований, чтобы этот претендент стал объектом внимания не только республиканского и международного профсоюзного движения, но и Международной организации труда, членом которой является Республика Беларусь.*

*Мы призываем вас в кратчайшие сроки зарегистрировать в установленном порядке первичную профсоюзную организацию БНП и не препятствовать законному праву граждан на объединение в профсоюзы, которое прямо предусмотрено ч.3. ст 41 Конституции Республики Беларусь.*

*Мы готовы по призыву БНП принять участие в акциях протеста против необдуманных и незаконных действий сотрудников Солигорского райисполкома».*

Подписал письмо официальный лидер РЭП Геннадий Федынич.

В телефонном разговоре с корреспондентом «Народной Воли» он добавил:

– Солидарность в профсоюзном движении очень важна. Если мы, демократические профсоюзы Беларуси, хотим стать сильнее, привлекать в свои ряды больше людей, нам надо поддерживать друг друга в борьбе за права и законные интересы наемных работников.

На мой взгляд, Солигорский райисполком делает ошибку, не регистрируя первичную организацию БНП на предприятии УСП «Трест «Реммонтажстрой». 400 работников этого предприятия не каких-то привилегий для себя требуют, они требуют осуществления своего законного права. И они налогоплательщики. Они вправе рассчитывать на то, что местная власть будет их уважать, а не создавать своими необдуманными действиями им проблемы в плане социального партнерства.

Напомним, Солигорский райисполком уже повторно отказался зарегистрировать первичную организацию БНП работников УСП «Трест «Реммонтажстрой».

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

КРЫМІНАЛ

## Псіхіятр-нарколаг пойдзе пад суд

Як выявіла следства, са студзеня па ліпень 2018 года 38-гадовы псіхіятр-нарколаг выпісваў рэцэпты на набыццё псіхатропных прэпаратаў на імя асоб, якім была неабходна адпаведная меддапамога. Але выпісаныя рэцэпты ён атаварваў у аптэках сам.

Потым мужчына ад імя медцэнтра аказваў грамадзянам платныя паслугі: даваў кансультацыі і выдаваў незаконна набытыя лекі пацыентам, якія не ведалі пра яго злачынную дзейнасць. Пры гэтым грошы за гэтыя паслугі ён часткова забіраў сабе.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Каварства маладзіц не ведае граніц

У праваахоўныя органы сталі паступаць лісты, у якіх мінчанка прызнавалася, што мае дачыненне да гандлю наркотыкамі. У ходзе праверкі высветлілася, што ад імя жанчыны прызнанні пісала яе саперніца, якая хацела гэткім чынам завалодаць чужым мужам. Узбуджана крымінальная справа за лжывы данос.

Пісьмо на стол маёра легла.  
Яму заяў прыходзіць шмат,  
Таму спярша таропка, бегла  
Ён па радках правёў пагляд.  
Як сэнс стракатай пісаніны  
Засвоіў міліцэйскі клёк,  
Дык у наступныя хвіліны  
Маёр адчуў сапраўдны шок.  
Паведамляла маладзіца,  
Што прадавала гераін.  
«Сумленне мучыць, дрэнна спіцца,  
Асадак горкі, як палын.  
Каб Бог прабачыў  
Грэх мой цяжкі,  
Каб я ачысціла душу,  
Без аніякае паблажкі  
Я пакараць мяне прашу.  
І буду Вам удзячна надта,  
Калі адправіце ў турму…»  
Маёр паклікаў лейтэнанта,  
Распараджэнне даў яму:  
– Вось адрас.  
Там жыве жанчына.  
Дык прывязі яе сюды.  
Усё як след, найлепшым чынам  
Зрабіў службовец малады.  
Зайшла спалохана-нясмела  
У міліцэйскі кабінет  
І на краёчак стула села…  
Маёр цвіце, як макаў цвет,  
Давольны вельмі твар ягоны:  
Трымае ён у галаве,  
Што зоркі лягуць на пагоны –  
На кожным будзе іх па дзве.  
За затрыманне маладзіцы  
І ўзнагароду мецьме ён:  
Хай не ў штанах,  
Хай у спадніцы,  
Ды ўсё-такі наркабарон!  
– Хвалю, што Вы мне напісалі,  
Аблегчыўшы цяжар пакут…  
І тое, што здаліся самі,  
Улічыць, безумоўна, суд.  
– Прабачце, я ні сном ні духам,  
І почырк тут зусім не мой, –  
Сказала слёзна маладуха, –  
Не пагражайце мне турмой!  
І зразумеў маёр, што зоркі  
Не абмывацьме ў каньяку…  
Ну а затым былі разборкі,  
Была работа следаку.  
Не гультаіна ён, увішны,  
Таму на ўсё праліў святло.  
Сюжэт тыповы – «трэці лішні»,  
Як і спакон вякоў было.  
Блудлівы муж займеў каханку.  
А той хацелася, каб ён  
«Таптаў» увечары і ўранку  
Дый уначы ахоўваў сон.  
Патрэбна жонку «зжыць са свету».  
І ад яе імя яна  
Накрэмзала заяву гэту.  
«Цяпер, – рашыла, – ёй хана,  
А я, як кажуць, буду ў глянцы,  
Ляжацьму пузам дагары…»  
Аднак цяпер самой каханцы  
Сушыць патрэбна сухары.  
Праз нейкі тэрмін справаздачу  
Слядак начальніку прыпёр.  
– Я ўпершыню такое бачу, –  
Сказаў збянтэжана маёр. –  
Чытаю – і не верацсь вочы.  
Ад сатаны пайшлі жанкі,  
Бо здольны толькі клёк жаночы  
На езуіцкі план такі…

* * *

Каварная жанчына ўсё-ткі,  
Для помсты варыянтаў шмат,  
І розныя ўжывае сродкі:  
Падман, паклёп, пазногці, яд…  
А аргумент мужчыны – сіла,  
Насоўгаць можа кухталёў.  
…Ці не жанчына атруціла  
На Альбіёне Скрыпалёў?

### Варта засвоіць

Здаровы ты або нядуж,  
Але засвоіць варта гэта:  
Калі не йдзе да жонкі муж,  
Дык жонка йдзе да Магамета.

### Такія страсці…

На зайздрасць жыхарам сяла,  
Такія ў іх кіпелі страсці,  
Што палюбоўніца была  
На сёмым месяцы ад шчасця…

### «Плэйбой» больш не трэба

На сметніцы амаль гарой  
Ляжаць часопісы «Плэйбой».  
Ну што сказаць пра кучу гэту?  
Хтось падключыўся к інтэрнэту…

### Заспакаяльны сродак

– Парайце, доктар, штось такое,  
Каб зноў душа была ў спакоі.  
Вачыма доктар бліснуў хітра:  
– Ну што ж, гарэлачкі паўлітра…  
– А пасур'ёзней што прыняць?  
– А пасур'ёзней – літраў пяць…

РЭЗАНАНС

# Хачу быць беларусам!

У газеце «Народная Воля» за 26 кастрычніка быў надрукаваны матэрыял аб прынцыповай пазіцыі Алеся Чахольскага: ён імкнецца высветліць, чаму чыноўнікі не могуць (ці не хочуць) паставіць у пашпарт штамп аб рэгістрацыі на беларускай мове.

Я таксама сутыкнуўся з падобнай дыскрымінацыяй.

У сувязі з унутраныміпературбацыямі ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы Слонімскага раёна я мусіў заключыць новую дамову па абслугоўванні жылога дома. 5 лістапада прыйшоў у разліковадаведачны цэнтр гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, і мне прапанавалі падпісаць *«Типовой договор на оказание услуг по техническому обслуживанию жилого дома»*. Беларускамоўнага варыянта няма. Рускамоўны варыянт дамовы зацверджаны Пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.01.2009 №99 (у рэдакцыі пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30.06.2016 №18).

На жаль, у пераважнай большасці дзяржаўных устаноў Беларусі ігнаруецца канстытуцыйнае права грамадзян карыстацца беларускай мовай. І не заўсёды ў чалавека ёсць магчымасць (час, сродкі, юрыдычная пісьменнасць) супрацьстаяць гэтаму, а галоўнае – чалавек не верыць, што пасля ягонага звароту з адпаведным патрабаваннем (нават пісьмовага) дзяржава пачне паважаць яго правы. Людзі, будзем шчырымі, хочуць быць беларусамі, а не «Иванами, не помнящими своего родства».

На гэты раз, успомніўшы словы Чахольскага (*«Думаю, да маіх патрабаванняў далучацца і іншыя грамадзяне Беларусі»*), я адмовіўся падпісваць дамову на рускай мове і зрабіў адпаведны запіс у кнізе заўваг і прапаноў разліковадаведачнага цэнтра Слонімскага ГУП ЖКГ.

Дарэчы, восенню 2015 года ў аддзеле загс Слонімскага раёна ў пашпарт маёй дачкі таксама паставілі рускамоўны штамп аб нараджэнні маёй унучкі. Штампа на беларускай мове не было (як і бланкаў на беларускай мове). Дачка папрасіла, каб хоць тэкст у штампе быў па-беларуску, але ёй адмовілі і ў гэтым. Я ўжо было і зварот падрыхтаваў у Міністэртва юстыцыі з просьбай вырашыць пытанне, каб у аддзеле загс Слонімскага раёна былі ў наяўнасці бланкі і штампы на беларускай мове. Але, прачытаўшы інфармацыю, што, паводле звестак Міністэрства ўнутраных спраў, *«МУС гатова сумесна з Міністэрствам юстыцыі прапрацаваць пытанне ўнясення ў пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь адзнак як на рускай мове, так і на беларускай»*, я вусна звярнуўся ў Слонімскі загс, каб спраўдзіць гэту інфармацыю. Тагачасная начальніца загса на добрай беларускай мове запэўніла мяне, што, сапраўды, пытанне ўжо прынцыпова вырашана і ў хуткім часе ва ўсіх загсах нашай краіны будуць штампы і на беларускай мове. Я быў прыемна здзіўлены такой навінай і, натуральна, задаволены. Таму і не адаслаў свой зварот у Міністэрства юстыцыі. Навошта марнаваць час, калі пытанне вырашана прынамсі наконт штампа?

6 лістапада 2018 года я наведаў Слонімскі загс. Новая начальніца паведаміла мне (таксама па-беларуску), што штампаў на беларускай мове па-ранейшаму няма. Пра бланкі я не пытаўся, бо ўбачыў сваімі вачыма, што, як і тры гады таму, усе інструкцыі і ўзоры – на рускай мове.

Узнікае пытанне: куды звяртацца?!

Міністэрства юстыцыі і Савет міністраў, пэўна, прышлюць вядомую адпіску, што паводле закона ў нас усё робіцца на беларускай або рускай мовах, што яны выбралі рускую мову (зацвердзілі толькі на рускай мове адпаведна штамп і тыпавую дамову) і, такім чынам, нічога не парушылі.

Канстытуцыйны суд… у 2007 годзе ўжо разглядаў падобны мой зварот.

Было так. Я напісаў скаргу начальніку Гродзенскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, а копію гэтай скаргі – Алегу Трусаву, тагачаснаму старшыні ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». Гродзенскі міліцэйскі начальнік Генадзь Хацько ў сваім адказе ад 15.06.2007 напісаў мне: *«У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Адрасныя лісткі прыбыцця і выбыцця запаўняюцца на адной з дзяржаўных моў: рускай, што адпавядае патрабаванням названага артыкула»*. Не пагадзіўшыся з такой пазіцыяй, ТБМ звярнулася ў Канстытуцыйны суд і Пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Што адказалі (і ці адказалі) пракурорскія чыноўнікі – не ведаю, а старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч (менавіта ён тады займаў гэтую пасаду) напісаў такі адказ старшыні Таварыства беларускай мовы (копію ліста Р.Васілевіча мне пераслалі з ТБМ): *«Паважаны Алег Анатольевіч! Ваш зварот у Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь па пытанні абмежавання канстытуцыйнага права грамадзян горада Слоніма карыстацца беларускай мовай разгледжаны. У мэтах ліквідацыі перашкод, звязаных з выкарыстаннем беларускай мовы пры афармленні ў новых пашпартах прапіскі, Ваш зварот разам з матэрыяламі аб іх перапісцы накіраваны ў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь з мэтай карэкціроўкі адпаведнага акта заканадаўства»*.

Але ніякай карэкціроўкі не адбылося.

Чаму так адбываецца?! На мой погляд, справа не ў тым, што ў Канстытуцыі і законах Беларусі штосьці недакладна прапісана. Там якраз пануе моўная роўнасць. Справа ў іншым. Ніводзін чыноўнік, у тым ліку калектыўны орган кшталту Савета міністраў Беларусі, не адважыцца вось так, ні з таго ні з сяго, дзейнічаць не ў адпаведнасці з літарай і духам Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь. Ды і навошта ім гэта? Які інтарэс чыноўніку дыскрымінаваць тых грамадзян Беларусі, для якіх беларуская мова родная? Не хапіла (шкада) бюджэтных грошай, каб скласці тыпавую дамову па-беларуску? Вядома ж, не. Але чаму? Чаму Савет міністраў так паступіў?

Так, я, як і тысячы, а магчыма, і мільёны іншых людзей, хачу адчуваць сябе беларусам. І хачу, каб дзяржава падтрымлівала мяне ў гэтым. Няўжо нельга станоўча вырашыць пытанне наконт таго, каб штампік у маіх дакументах быў на нашай роднай беларускай мове?

**Міхась ВАРАНЕЦ.**

*Слонім.*

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

Пару лет назад швейцарская арт-фирма создала робота, который бродил по интернет-биржам и покупал случайные товары для арт-выставки на выдаваемые ему 100 долларов в неделю по известным только одному ему алгоритмам и критериям. В конце концов его покупками заинтересовалась полиция: робот почему-то купил в интернете десять таблеток экстази и поддельный венгерский паспорт. Робота арестовали (то есть конфисковали ноутбук), арестовали также и его приобретения. Но потом вернули владельцам, которые подняли шум в связи с нарушением свободы творчества. Правда, таблетки полиция оставила себе...

ДОБРЫ ПРЫКЛАД

# Пластмаса, шкло і метал – не ў сметнікі!

Я жыву ў ваколіцах Мінска. Раней бутэлькі з-пад малака, поліэтыленавыя мяшкі, шкляныя слоікі і кансервавыя бляшанкі мае сямейнікі скідвалі ў смеццевае вядро і ўсё разам выносілі, калі прыязджала машына і забірала бытавыя адходы.

Але неяк у галаву прыйшла думка: няправільна робім, пластмаса, поліэтылен, шкло і метал – не проста смецце, а надзвычай шкодныя адходы. І мы дамовіліся: у агульныя бытавыя адходы скідваць не будзем. І вось ужо з паўгода тыя ж пластмасавыя бутэлькі з-пад малака, выкарыстаныя поліэтыленавыя мяшкі, шкляную і металічную тару збіраем у вялікі кошык, а затым адвозім у месцы, дзе ў горадзе ўстаноўлены кантэйнеры для кожнага віду адходаў. Дарэчы, яны ёсць амаль на кожнай заправачнай станцыі. Таму часу не губляеш: заліў у бак неабходную колькасць паліва – і тут жа выкінуў усё з кошыка.

Калі б кожная сям'я перайшла на сартаванне бытавых адходаў, выйграла б не толькі прырода, але і эканоміка. Пластмаса, шкло і метал лёгка паддаюцца перапрацоўцы. Сёння гэта выкарыстаная тара, а заўтра – новыя спажывецкія тавары. Таму прапаную ўсім жыхарам перайсці на раздзельны збор смецця.

**Рыгор СМОЛЬСКІ.**

*Мінскі раён.*

ИЗ ПИСЬМА

# Будем справедливы…

Неправда, что все у нас дорожает. Денежки-то дешевеют.

**Виктор ЛАТУШКО.**

*Минск.*

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

# С продукцией низкого качества на мировой рынок не попадем. И жить лучше не станем

Многое познается в сравнении.

В год, когда мы отмечали 70-летие победы в Великой Отечественной войне, средняя заработная плата в Беларуси была в 9 раз меньше, чем в Германии, минимальная – в 12 раз ниже, пенсия белорусского офицера примерно в 7 раз меньше, чем имеет немецкий коллега. А ведь в той войне обе стороны сильно пострадали. Но почему теперь, спустя многие десятилетия, у них очень высокий уровень жизни, а у нас – совсем низкий? Сегодня зарплата в долларах США составляет: в Литве – 1007, Польше – 1292, Латвии – 992, России – 549, а в Беларуси – только 361. Снова возникает вопрос: почему такая разница в доходах?

Главная причина нашего недостаточно интенсивного развития – ошибочная технико-экономическая политика страны. Понятно, винить в этом нужно не только нынешнюю власть, но и прежде всего ту, советскую.

### Исторический экскурс

В СССР с начала семидесятых годов в хозяйственный механизм была введена аттестация продукции по категориям качества. Она делилась на три позиции.

Кое-кто скажет: немцам после войны сильно помогли американцы. Но тогда я хочу привести другой пример. Возьмем соседние страны, которые находились с нами в равных условиях. Высшая категория качества – это продукция мирового уровня или превышающая его, первая – та, которая соответствовала потребностям страны, вторая – подлежащая снятию с производства.

Хозяйственный механизм действовал таким образом, что предприятиям было легче и выгоднее выпускать продукцию первой категории качества. В 1980 году товары, изделия высшей категории качества в СССР составляли только 15,5% от всех. Замечу: тогда в Беларуси продукция высшей категории качества составляла 24,1%, это был самый высокий уровень среди республик огромной страны.

### В чем ошибка?

Если до того звучал лозунг «Выше всех, дальше всех, быстрее всех, лучше всех!», то с внедрением нового порядка лозунг трансформировался де-факто в такой: «Продукция мирового уровня – отлично, но нас устраивает и посредственность».

Проведенный мной еще 40 лет назад анализ показал, что продукция первой категории качества отстает по техническому уровню и качеству от продукции мирового уровня, как правило, от одного года до двадцати лет.

Чем выше качество продукции, тем ниже стоимость единицы полезного эффекта продукции. Значит, продукция первой категории качества невыгодна для потребителя. Что касается продукции производственно-технического назначения, то продукция первой категории обладает меньшей производительностью, меньшей долговечностью, меньшей надежностью по сравнению с той, которая соответствует мировому уровню.

Вследствие такой экономической политики стал резко снижаться прирост производительности труда – главного фактора улучшения жизни народа.

Последствия ошибочной политики громадны:

– развал Советского Соза из-за неспособности страны обеспечить благополучие народа по сравнению с Западом;

– Чернобыльская катастрофа, которая в мирное время нанесла огромнейший ущерб экономике;

– потеря у народа веры в социализм как справедливое мироустройство.

### О сложности проблемы

Возникает логичный вопрос: почему же СССР, имевший полмиллиона докторов и кандидатов наук, 3000 академиков, не смог создать в стране эффективную систему управления научно-техническим прогрессом?

Ответ кроется в сложности проблемы, которая для объективного решения требует соединить воедино знания людей около полутора десятков различных специальностей. К сожалению, специалистов с такими знаниями у нас никто не готовил и не готовит.

Бывший шахтер, комбайнер, директор совхоза, кагэбист, юрист, заняв высший государственный пост, безусловно, по своему уровню развития не способен грамотно оценить такую сложную проблему. Сначала она рассматривалась на низших уровнях, где одни не могли сделать четких заключений, другие противостояли новациям, третьи плыли по течению. Результат – известен.

### А судьи кто?

Понимая архиважность проблемы, я когда-то лично обратился к Генеральному секретарю ЦК КПСС Ю.Андропову. Мое письмо переадресовали научному совету по вопросам научно-технической революции Академии наук СССР. Трижды, через большие перерывы, проходили в Москве заседания с моим участием. Используя методы схоластики, ученые не согласились с моими выводами об ошибочности государственной политики. Следует отметить, что третьим заседанием руководил доктор экономических наук, который в своих публикациях доказывал, что СССР, используя свои громадные природные богатства, прежде всего нефть и газ, сможет занять передовые позиции в мире. Позднее он стал экономическим советником президента В.Путина. Вот откуда растут ноги сырьевой экономической политики России.

### А враг не дремлет

Аллену Даллесу, директору ЦРУ США, приписывается разработка американской послевоенной доктрины против СССР, чтобы посеять хаос. Мол, посеяв хаос в стране, незаметно подменим их ценности на фальшивые и заставим в них поверить, – утверждал противник.

Подтверждением моего вывода являются слова генерала Юрия Дроздова, который руководил советской и российской нелегальной разведкой. Оказывается, американские и российские разведчики-контрразведчики, став пенсионерами, встречались поговорить «про жизнь», в том числе о том, как они боролись друг против друга. И на встрече прозвучало: «Но пройдет время, и вы ахнете, если будет рассекречено, когда увидите, какую агентуру имели ЦРУ и Госдепартамент наверху». ЦРУ явно переиграло КГБ.

### Обходят стороной

Все мои обоснования насчет необходимости изменить экономическую политику страны были похоронены безответственными людьми. Редакторы государственных СМИ железно берегли высшее руководство страны от критики. Не осмелились публиковать мои статьи и независимые газеты.

Государство теряет перспективу, народ влачит жалкое существование, а в это время государственные институты – правительство, парламент, президент, прокуратура, Конституционный суд, средства массовой информации – не выполняют своего предназначения: не вникают глубоко в суть острейших проблем, не выносят их на общенародное обсуждение.

### Чего ждать?

В послании президента А.Г.Лукашенко белорусскому парламенту и народу ставится задача быть открытыми для более быстрого роста благосостояния, для сокращения отставания от развитых стран.

Эта цель может быть достигнута только при одном условии – когда выпуск продукции мирового уровня будет составлять не менее 80–90% от всей. Чтобы этого достичь, нужно пересмотреть всю государственную политику.

**Иннокентий ПЛЮСНИН,**
**подполковник-инженер в отставке.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ЛІСТАПАДА 2018 г.

ДЫПКУР'ЕР

# Артур МІХАЛЬСКІ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі: «Мы павінны наша суседства ўспрымаць як шанец, а не як пагрозу»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

## «Беларусы, якія жывуць у Польшчы, карыстаюцца ўсімі свабодамі»

**– Для многіх беларусаў заробкі ў Польшчы – мара, таму сёння многа беларусаў імкнуцца працаўладкавацца ў вашай краіне, ды і Польшча не хавае сваёй зацікаўленасці ў працоўнай сіле з Беларусі. Колькі дазволаў на работу выдае пасольства?**

– Дазволы на работу ў Польшчы выдае не пасольства, а самі працадаўцы дасылаюць дакументы, якія пацвярджаюць працаўладкаванне, і мы на іх падставе выдаём візы з правам на работу. У мінулым годзе было выдадзена каля 50 тысяч такіх віз, хоць не ўсе імі скарысталіся.

У Польшчы сапраўды ёсць попыт на працоўную сілу ў сувязі з добрай эканамічнай кан'юнктурай, што з'яўляецца шанцам для работнікаў з суседніх краін, у тым ліку з Беларусі. Як вы ўжо гаварылі, мы вельмі блізкія ў культурным плане. Хто добра валодае беларускай мовай, даволі хутка ўсё разумее па-польску. Гэта культурная, суседская, моўная блізкасць спрыяе таму, што беларусы, якія працуюць у Польшчы, вельмі добра сябе там адчуваюць. У сувязі з больш высокімі заробкамі яны таксама дапамагаюць сваім сем'ям у Беларусі.

**– Спадар Пасол, хацела б запытацца ў вас наконт няпростай сітуацыі: пішуць пра тое, што на Падляшшы сёння ўсё часцей узнікаюць канфлікты паміж этнічнымі палякамі і беларусамі, перш за ўсё маладымі; што паглыбленне напружанасці звязана з адраджэннем культу герояў Арміі Краёвай, многія з якіх спрычыніліся да фізічнага знішчэння беларусаў у перыяд Другой сусветнай вайны. Што вы можаце сказаць пра палітыку Польшчы ў адносінах да нацыянальных меншасцяў, у тым ліку да беларусаў? Наколькі сур'ёзная рызыка парушэння той атмасферы нацыянальнай талерантнасці, якая заўсёды была ўласціва гэтаму рэгіёну Польшчы?**

– Шматкультурны і шматканфесіянальны пейзаж Падляшша для нас – гэта скарб і прадмет гонару. Гарманічнаму суіснаванню розных нацыянальнасцяў на Падляшшы спрыяюць таксама Каталіцкая і Праваслаўная цэрквы, якія вядуць актыўны дыялог і супрацоўніцтва. Так, былі складаныя моманты ў нашай гісторыі, але прыкладаў добрага і гарманічнага суседства розных народаў і веравызнанняў значна больш, як, зрэшты, і ў Беларусі. Трагічныя факты, пра якія вы пытаецеся, тычацца пасляваеннага перыяду, калі Арміі Краёвай, гераічнага фарміравання, якое змагалася з захопнікамі, ужо не існавала. На гэтых землях дзейнічалі фарміраванні, якія не пагадзіліся з ялцінскімі дамоўленасцямі і працягвалі змагацца за свабодную радзіму. Мелі месца і трагічныя падзеі, ахвярай якіх было грамадзянскае насельніцтва. Адпаведныя інстытуты польскай дзяржавы далі ім выразную ацэнку, сцвярджаючы, што гэтыя дзеянні немагчыма апраўдаць. Патрэбны шчыры дыялог паміж гісторыкамі, гэтыя кантакты развіваюцца на працягу многіх гадоў, але патрэбны сумесныя публікацыі, якія апісвалі б наша багатае агульнае выдатнае мінулае і, канечне, адлюстроўвалі складаныя для абодвух бакоў пытанні. Што тычыцца сітуацыі з нацыянальнымі меншасцямі, то беларусы, якія жывуць у Польшчы, карыстаюцца ўсімі свабодамі, а наша дзяржава і мясцовыя ўлады выдзяляюць значныя сродкі на развіццё іх ідэнтычнасці, мовы, культуры.



Траса Торунь у Варшаве.


Гданьск.

## «Заўсёды нашы дзеянні спрыялі ўмацаванню суверэнітэту і дзяржаўнасці Беларусі»

**– Спадар Пасол, якія ў вас уражанні ад працы ў Беларусі? Вы толькі паўгода ўзначальваеце пасольства, але паспелі ўжо наведаць Гродна, Пінск, Брэст, Навагрудак, правесці шэраг сустрэч, прыняць удзел у розных мерапрыемствах.**

– Беларусь – прыгожая краіна, якую я ўвесь час для сябе адкрываю. Падчас сваіх падарожжаў я сустракаю выдатных людзей ва ўсіх рэгіёнах. Нас вельмі многае аб'ядноўвае, разам з тым я стараюся зразумець, чаму часам з'яўляюцца праблемы і ўсё яшчэ існуюць пэўныя стэрэатыпы. Я са свайго боку хачу зрабіць усё, каб пасля заканчэння маёй дыпламатычнай місіі па абодва бакі мяжы іх было значна менш. Думаю, што гэта рэальна, але патрабуе шмат намаганняў і добрай волі з абодвух бакоў. Мы павінны наша суседства ўспрымаць як шанец, а не як пагрозу. Акрамя таго, шматлікія палякі, якія жывуць у Беларусі, павінны мець усе правы, свабоду ў галіне развіцця сваіх традыцый, у тым ліку неабмежаванага доступу да вывучэння польскай мовы. Мы павінны зрабіць стаўку на нашу блізкасць, выкарыстоўваючы шматвяковую агульную культурную спадчыну, і развіваць супрацоўніцтва ва ўсіх галінах, перш за ўсё ў эканоміцы.

**– Сёння можна пачуць меркаванне, што апошнім часам Беларусь змянілася, што пасля адмены санкцый ЕС актывізаваліся адносіны з заходнімі краінамі, у тым ліку з Польшчай. Вы згодны з такімі сцвярджэннямі? На ваш погляд, адмена санкцый была правільным крокам, у свой час вы падтрымлівалі ўвядзенне санкцый супраць беларускіх чыноўнікаў і кампаній.**

– Санкцыі былі ўведзены пасля вельмі драматычных падзей у Мінску ў снежні 2010 года. Думаю, тады было шмат беларусаў, якія пагаджаліся з намі, што рэакцыя была патрэбна. Думаю, што сёння Беларусь – і Захад таксама – у большай ступені выкарыстоўваюць магчымасці супрацоўніцтва. Прыкладам з'яўляецца ўвядзенне бязвізавага рэжыму для гасцей, якія прыбываюць праз аэрапорт Мінск, а таксама вакол Гродна і Брэста. Гэта аблягчае жыццё турыстам, бізнесменам, прыносіць рэальны даход Беларусі, бо турысты – гэта грошы, а таксама дазваляе пераадолець стэрэатыпы. Я не ведаю нікога, хто пасля наведвання Беларусі ў рамках бязвізавага рэжыму застаўся незадаволеным. Думаю, трэба пашыраць зону яго дзеяння, тады вынікі будуць яшчэ лепшыя.

**– Дарэчы, у сваіх першых інтэрв'ю ў Беларусі вы гаварылі пра тое, што неабходна зрабіць польска-беларускую мяжу «больш празрыстай, каб больш беларусаў маглі ў камфортных умовах перасякаць мяжу, прыязджаць у Польшчу і, наадварот, каб палякі маглі прыязджаць сюды». У той жа час яшчэ з 2011 г. не вырашаецца пытанне ўвядзення малога бязвізавага памежнага руху паміж Беларуссю і Польшчай, хоць усе неабходныя дакументы ратыфікаваны. Наша краіна гаворыць, што не гатова інфраструктура. На ваш погляд, калі гэта пагадненне пачне дзейнічаць?**

– Пра гэта трэба спытацца ў беларускага боку, таму што з польскага боку зроблена ўсё для яго ўвядзення. Мы некалькі гадоў чакаем ноту ад беларускага боку, якая пацвярджала б уступленне дагавора ў сілу. Я перакананы, што ад увядзення малога памежнага руху выйграюць абодва бакі.

**– Падчас наведвання БДТУ вы сказалі: «Наша суседства – вялікі шанец для супрацоўніцтва». На ваш погляд, якім галінам у развіцці двухбаковых адносін можна надаць яшчэ большы імпульс?**

– Усім! Аднак перш за ўсё варта развіваць эканамічнае, культурнае супрацоўніцтва і кантакты паміж грамадзянамі. Эканоміка – гэта будучыня і галіна, якая найменш адчувае ваганні палітычнай кан'юнктуры. Таксама і культура, якая, зрэшты, аб'ядноўвае нас, як мала якія народы ў свеце. А кантакты паміж грамадзянамі – гэта аснова, супрацоўніцтва паміж дзяржавамі не развіваецца само па сабе, яно абапіраецца на канкрэтных людзей.

**– Безумоўна. Але вось, напрыклад, у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы ўжо дастаткова даўно працуе кафедра паланістыкі. У многіх польскіх універсітэтах ёсць кафедры русістыкі і ўкраіністыкі, але кафедра беларусістыкі толькі адна – у Беластоцкім універсітэце. Аднак хадзілі чуткі пра тое, што яе збіраюцца закрыць. Які яе лёс?**

– Кафедры беларускай філалогіі дзейнічаюць не толькі ў Беластоку, але і ў Варшаўскім універсітэце, нядаўна яна адзначала 60-годдзе, а таксама ў Любліне як секцыя беларускай філалогіі кафедры славістыкі Універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры. Усё не так дрэнна.

**– Спадар Пасол, наша сустрэча адбываецца на фоне заяў Польшчы аб гатоўнасці размясціць за свой кошт на тэрыторыі краіны пастаянныя ваенныя базы ЗША і крытыкі гэтых планаў з боку Расіі і Беларусі. Польшча можа пагражаць Беларусі?**

– Польшча ніякім чынам не пагражае Беларусі. Нашы дзеянні, звязаныя з узмацненнем абарончага патэнцыялу, прадыктаваны агрэсіўнай палітыкай Расіі ў рэгіёне і носяць выключна абарончы характар. Зрэшты, ніколі палітыка Польшчы пасля 1989 г. не была накіравана супраць Беларусі, заўсёды нашы дзеянні спрыялі ўмацаванню суверэнітэту і дзяржаўнасці Беларусі.

## «У першыя дні пасля прыезду ў Мінск я пачаў наведваць тэатры»

**– Нядаўна ў інтэрв'ю «Народнай Волі» Пасол Германіі ў Беларусі Петэр Дэтмар расказаў, што на гэту пасаду ён быў не прызначаны, а выйграў конкурс: Германія штогод абвяшчае конкурс на свабодныя дыпламатычныя пасады. А як вы сталі Паслом Польшчы ў Беларусі?**

– У Польшчы паслы прызначаюцца на пасаду. Кандыдатуру прапануе МЗС, зацвярджаюць прэм'ер-міністр, парламент і прэзідэнт, які ўручае перад ад'ездам кожнаму паслу даверчыя граматы, якія пацвярджаюць, што ён прадстаўляе Польшчу ў іншай краіне.

Прыезд у Беларусь быў для мяне нечаканасцю, але вельмі прыемнай. З пункту гледжання Варшавы, Мінск – гэта сталіца вельмі важнай суседняй краіны.

**– Ваша сям'я прыехала за вамі ў Мінск?**

– Я тут з жонкай і амаль дарослым сынам. У дзвюх старэйшых дачок ужо свае сем'і. На адлегласці я радуюся свайму ўнуку… Яны нават ужо наведалі нас у Мінску.

**– Дзе вы жывяце ў Мінску? Якія ўражанні ад горада?**

– Мы жывём недалёка ад Цнянскага вадасховішча. Гэта прыгожае і спакойнае месца, дзе можна выдатна адпачыць, прагуляцца пешшу вакол возера. А сам Мінск выклікае вельмі добрае ўражанне. Гэта сучасны і добра арганізаваны горад, у якім сапраўды камфортна жыць. Мінск – гэта таксама месца з багатым культурным жыццём, выдатнымі тэатрамі, музыкай. У першыя дні пасля прыезду я пачаў наведваць тэатры, і гэта быў выдатны вопыт. Памятаю, як пайшоў у Купалаўскі тэатр і Тэатр беларускай драматургіі і, нягледзячы на тое, што да гэтага ў мяне было толькі некалькі ўрокаў беларускай мовы, я абсалютна ўсё разумеў не толькі ў чыста моўным плане – мы вельмі падобныя.

**– Да прызначэння ў Беларусь у вас ужо быў вопыт працы Паслом – вы ўзначальвалі польскае дыппрадстаўніцтва ў Малдове і пасля завяршэння сваёй місіі атрымалі з рук прэзідэнта Малдовы Ігара Дадона высокую ўзнагароду – ордэн Гонару. Ці ёсць сярод вашых задач і такая – атрымаць беларускую ўзнагароду за сваю працу ў Беларусі?**

– Пасол не павінен думаць падчас сваёй дыпламатычнай місіі пра ўзнагароды, а толькі пра працу дзеля збліжэння дзвюх краін і народаў. Мая мэта – максімальна выкарыстаць магчымасці супрацоўніцтва паміж палякамі і беларусамі, а таксама адкрыць магчымасці, якія даюць нам узаемная блізкасць і суседства. Калі атрымаецца гэта зрабіць, гэта будзе для мяне лепшай узнагародай.

**– Спадар Пасол, вялікі дзякуй за інтэрв'ю!**

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

### З асабістай справы

*__Артур Міхальскі__ нарадзіўся 5 мая 1962 г. у Варшаве. Выпускнік Акадэміі каталіцкай тэалогіі (цяпер Універсітэт кардынала Стэфана Вышынскага).*

*У 1991–1996 гг. працаваў на пасадзе Другога, а пазней Першага сакратара Пасольства Рэспублікі Польшча ў Расійскай Федэрацыі.*

*У 1996–1997 гг. кіраваў аддзелам даследаванняў Расіі Цэнтра даследаванняў Усходняй Еўропы.*

*У 1997–2000 працаваў у Дэпартаменце Усходняй Еўропы Міністэрства замежных спраў.*

*У 2000–2004 гг. быў Першым сакратаром, а пазней Саветнікам Пасольства Рэспублікі Польшча ў ЗША.*

*З 2004-га па 2006 г. працаваў у Дэпартаменце Амерыкі Міністэрства замежных спраў.*

*У 2006–2010 гг. працаваў у Пасольстве Рэспублікі Польшча ў Канадзе, дзе, між іншым, выконваў абавязкі кіраўніка дыпмісіі.*

*Пасля вяртання ў Міністэрства замежных спраў быў намеснікам дырэктара, а пазней дырэктарам Усходняга дэпартамента.*

*У 2012–2017 гг. – Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Малдова.*

*Са жніўня 2017 г. займаў пасаду дырэктара Усходняга дэпартамента.*

*15 мая 2018 г. Прэзідэнт Рэспублікі Польшча прызначыў Артура Міхальскага Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.*

АБЗАЦЕМ

### Вместо Лукашенко в Париж полетит Михаил Мясникович

Председатель Совета Республики представит Беларусь во время торжественных мероприятий к 100-летию окончания Первой мировой войны.

Рабочий визит Михаила Мясниковича во Францию будет проходить с 10 по 12 ноября.

### «Беларуси надо брать пример с Украины и Грузии»

Так сказал экс-генеральный секретарь НАТО Андерс Фог Расмуссен.

«У белорусов есть шанс определить свое будущее, – *сказал он в интервью «Польскому радио»*. – В будущем Минск мог бы играть важную роль за счет географического положения между Россией и Европой. А НАТО и ЕС при условии проведения в стране реформ и более свободного общества готовы в перспективе принять Беларусь в свои ряды».

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Як футбалісты «Чэлсі» пазнаёміліся з Беларуссю

*У нашу краіну завітаў чарговы футбольны гранд.*



Учора ў Барысаве англійскі клуб «Чэлсі» згуляў на групавым этапе Лігі чэмпіёнаў з мясцовым БАТЭ. Графік выхаду газеты не дазваляе назваць лік матча, які закончыўся позна ўвечары, але для многіх балельшчыкаў сам прыезд тытулаванай каманды – ужо падзея. Самы дарагі варатар свету **Кепа Арысабалага, Азар, Кантэ, Давід Луіс** і **Альвара Марата, Вільян** і **Сэск Фабрэгас**… Суцэльны зорны карагод! Не ўсе, праўда, даехалі да Мінска (трэнеры «Чэлсі» маюць багаты выбар ігракоў), але і тыя, хто прыляцеў у Беларусь, былі далёка не хлопчыкі для біцця.

Традыцыйна ў аэрапорце куміраў сустракала некалькі дзясяткаў балельшчыкаў, але, зоркі, як аказалася, недасягальныя. З самалёта яны перайшлі ў аўтобус, а іх прыхільнікам заставалася толькі памахаць яму ўслед. Практычна тая ж сітуацыя была і ля сталічнага атэля *Marriott, дзе спынілася англійская каманда. Адзінкам удалося узяць аўтограф у куміраў, усе астатнія былі вымушаны стаяць за ачапленнем са службы бяспекі гатэля і праваахоўнікаў.*

Многія футбалісты «Чэлсі», відаць, добра не ведалі, што за краіна – Беларусь, а таму падрыхтаваліся, як да прыезду ў паўночны край. Галоўны трэнер БАТЭ **Аляксей Бага** ў эфіры праграмы «Час футбола» на «Беларусь 5» таксама распавядаў пра тое, што цікавіла яго калегу з «Чэлсі»:

*«Маўрыцыа Сары пасля гульні ў Лондане задаваў мне пытанні пра Мінск, пра надвор'е. Даведваўся, якая ў нас ежа, ці не халодна і ці не ходзяць мядзведзі па вуліцах. Давядзецца яму падарыць цёплыя рэчы на памяць. Напрыклад, шапку-вушанку».*

*Дарэчы, не было інфармацыі, што ў Мінск прыляцеў разам з футбалістамі і ўладальнік клуба – расійскі мільярдэр* **Раман Абрамовіч**. *Відаць, уласныя справы яго зараз хвалююць не менш за спартыўныя.*

Як вядома, праблемы з брытанскай візай і апасенні перад магчымымі амерыканскімі санкцыямі падштурхоўваюць бізнесмена развітацца з «Чэлсі», але і прадаваць клуб без істотнага прыбытку ён не хоча. Паводле апошняй інфармацыі, за «Чэлсі» Абрамовіч жадае атрымаць 3 мільярды фунтаў стэрлінгаў, а прапаноўвалі толькі 2,3 мільярда.

А вось балельшчыкаў не спыняюць ні ўласныя фінансавыя праблемы, ні межы, ні адлегласці, і падтрымаць «Чэлсі» прыехалі каля тысячы чалавек з розных краін свету. І як быццам спецыяльна, Мінск сустракаў іх лонданскім туманам…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

«ЛІСТАПАД»

# Игорь Сукманов – французский кавалер



Директору программ игрового кино Минского международного кинофестиваля «Лістапад» Игорю Сукманову послом Франции в Республике Беларусь Дидье Канессом присвоено звание кавалера ордена искусств и литературы.

Три года назад этим орденом была награждена писательница Светлана Алексиевич (еще не отмеченная к тому времени Нобелевской премией). Понятно, что стоять в одном ряду с такой личностью – престижно и ответственно. Но Игорь Сукманов этого достоин, и это мнение, уверена, поддержат все синефилы нашей республики.

Добавлю лишь, что во многом именно благодаря авторитету, эрудиции, тонкому вкусу киноведа Игоря Сукманова, каждый год составляющего программы игрового кино фестиваля, минский «Лістапад» вписан в международный формат, получил аккредитацию Международной федерации ассоциаций кинопродюсеров (FIAPF), которая дается далеко не каждому фестивалю.

**Елена МОЛОЧКО.**

ВІНШУЕМ!

# Прэмію Ядкоўскага атрымаў герой рэпартажа «Народнай Волі»



*Гродзенскі краязнаўца, стваральнік макета ідэальнага горада Ігар Лапеха (на фота), аб якім «Народная Воля» пісала ў жніўні, стаў лаўрэатам прэміі Юзафа Ядкоўскага.*

Паводле інфармацыі сябра журы **Таццяны Касатай**, прэмія Ядкоўскага была дадзена Ігару Лапеху за ягоную дзейнасць на працягу гэтага года і ў мінулыя гады, што выяўлялася ў актуалізацыі праблем не толькі гісторыка-культурнай спадчыны, але таксама прыроднай спадчыны Гродна. Ігар Лапеха, паводле меркавання Касатай, неаднаразова ўзнімаў пытанні, звязаныя з экалогіяй, а таксама выступаў як абаронца высечкі дрэў у межах горада.

Сёлета Лапеха прадставіў гораду макет старога Гродна, над якім працаваў 12 гадоў.

*«Я вывучаў кожны дом, кожную забудову ў самыя розныя эпохі, а таму магу адказаць за кожны будынак, які ёсць на маім макеце»,* – распавядаў Лапеха ў «Народнай Волі».

Макет цэнтра старога Гродна носіць назву «Гродзенскія брамы», ягоная экспазіцыя размяшчаецца на вуліцы Тэльмана, 4 у культурным цэнтры «Фэстывальны».

Прэмія Юзафа Ядкоўскага была заснавана гродзенскімі гісторыкамі ў 2012 годзе і ўручаецца штогод таму, хто зрабіў значны ўнёсак у вывучэнне або папулярызацыю гісторыі Гродна.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**



**Макет ідэальнага горада Гродна Ігара Лапехі.**

З ЮБІЛЕЕМ!

# Размова з бацькам…

*12 лістапада вядомаму навукоўцу, мастацтвазнаўцу, тэатральнаму крытыку, пісьменніку, драматургу, прафесару Юрыю Максімавічу СОХАРУ споўніцца 75 гадоў!*



**ДАСЬЕ**

*Нарадзіўся Ю.М.Сохар 12 лістапада 1943 года ў сялянскай сям'і. Бацька, Максім Гаўрылавіч, гераічна загінуў у баях з фашыстамі. Маці, Ганна Аляксееўна, выхоўвала двух сыноў адна.*

*У 1960 годзе Юрый скончыў сярэднюю школу і з 1961 года пачаў працоўную дзейнасць токарам на Мінскім аўтамабільным заводзе. З 1962-га па 1965 год служыў у войску…*

*У 1969 годзе скончыў акцёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута і стаў працаваць у Тэатры імя Янкі Купалы. З 1974-га па 1981 год займаў розныя пасады ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук. У 1978 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю.*

*У 1981 годзе быў абраны загадчыкам кафедры рэжысуры і акцёрскага майстэрства Мінскага інстытута культуры. З 1985 года – дацэнт. Пасля заканчэння дактарантуры пры Ленінградскім інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі (1986–1988 гг.) Ю.М.Сохар становіцца прафесарам. Больш за дваццаць гадоў ён на педагагічнай рабоце. Пэўны час чытаў лекцыі па «Гісторыі сусветнай культуры» ў Карлавым універсітэце (г.Прага)…*

Некалькі дзён таму я вырашыў: кіну ўсё і паеду на лецішча. Бацьку там я застаў за высакароднай, рамантычнай працай – ён стаяў на лесвіцы і здымаў крамяныя яблыкі. Дарэчы, на кожным дрэве ім зроблены прышчэпкі двух-трох гатункаў, чаранкі ў розныя гады ён прывозіў з Чэхіі, Германіі, Польшчы…

– Добры дзень, шаноўны садавод-аматар! – зычна прывітаўся я і адразу спытаўся: – Ці ж добры ўраджай?

– Ого! Яшчэ які! – прагрымеў густым барытанальным голасам бацька, спускаючыся на траву. І пацікавіўся: – Ты што, адзін? Можа, што здарылася? Гавары…

– Усё добра, усё ў парадку… Проста ўспомніў, што надыходзіць твой юбілей, вырашыў прыехаць і пабыць з табою, пасядзець вось тут у садзе, пагутарыць без мітусні, бегатні… Я хачу, каб ты распавёў мне пра нашы радавыя карані, пра прашчураў і пра сябе, але не пра агульнавядомае, а пра тое, чаго я не ведаю…

– Ты, Максім, галоўныя вехі нашага радаводу ведаеш добра і сам, можа, праўда, не так глыбока і дакладна. Але ж і я таксама не змог глыбока дакапацца да родных каранёў. Ведаю толькі, што продкі па лініі майго бацькі былі працавітыя землявробы, аратаі свайго шчасця, стагоддзямі хадзілі за сахою, адсюль і прозвішча наша – Сохар. Твой прадзед, Гаўрыла Максімавіч, атрымаў у спадчыну ад сваіх бацькоў некалькі дзясяткаў гектараў ворыўнай зямлі, каля сотні гектараў сенажаці з выпасамі, кашарамі і атарамі танкарунных авечак. Быў яшчэ і ветраны млын, які, па ўспамінах старых людзей, малоў вельмі якаснага памолу пытляваную муку. На жаль, усе гэтыя багацці, нажытыя ўласным мазалём, савецкая ўлада беззваротна экспрапрыіравала, а гаспадара, абазваўшы кулаком-крывасмокам, спачатку адправіла ў катоўню, а потым у лагеры на «выпраўленне»…

Што ж да продкаў з боку маці, то ведаю, што мой прадзед, а твой, вядома, прапрадзед Зіновій Лукіч Надха паходзіў з багатага роду свяшчэннаслужыцеляў, меў духоўны сан протаіерэя, дабротнае памесце, шмат зямлі з пашамі і лесам. Усё гэта атрымаў у спадчыну яго сын, мой дзед Алексій Зіноўевіч, які меў прыродныя творчыя здольнасці да музыкі, спеваў і, атрымаўшы адукацыю, быў царкоўным рэгентам, кіраваў вялікім саборным хорам. Як я ўжо некалі табе казаў, ён меў шыкоўнае памесце і любіў разводзіць элітных коней. Сям'я была вялікая – дзевяць дзяцей. Далей усё пайшло па вядомым сцэнарыі: раскулачылі, усё забралі, сям'ю з маёнтка выгналі, а самога пасадзілі на тры гады як ворага савецкай улады ў Валагодскую турму, дзе ён стварыў з такіх, як сам, хор. Ён мне расказваў, што турэмнае начальства паважала яго, часта запрашала на свае начныя п'янкі, дзе ён спяваў народныя песні, рамансы, нават адычныя арыі Рахманінава і арыі з опер, за гэта быў паважаны і датэрмінова адпушчаны. Вярнуўшыся, знайшоў у чужых людзей паміраючую маці, хворую жонку, якая ў хуткім часе таксама памерла…

– А дзеці, іх жа было дзевяць, што стала з імі? – запытаўся я ў бацькі.

– Дзеці? Самай малодшай дачушцы Зоі на той час было гадкоў пятнаццаць, яна жыла да паўналецця ў сваякоў, потым выйшла замуж. Астатнія восем разляцеліся па ўсім свеце. Адзін з іх, Аляксандр Аляксеевіч Надха, даслужыўся да контр-адмірала Балтыйскага флоту. Безумоўна, хлопцы, а іх было пяцёра, дастойна ваявалі на франтах, былі паранены, кантужаны, але засталіся ў жывых. Дзяўчаты, у тым ліку і мая маці, а твая бабуля, павыходзілі замуж, нарадзілі і выхавалі дзяцей, працавалі. Усе яны пражылі цяжкае жыццё, але да старасці заставаліся годнымі людзьмі, не зламаліся.

– Цябе, бацька, можна назваць прадстаўніком новага пакалення Сохараў. Было з каго браць прыклад…

– Так, даражэнькі. Але ж самае горкае тое, што, ты ведаеш, я дзіцем застаўся без бацькі. Ён, твой дзядуля Максім Гаўрылавіч, закрыў сваім целам амбразуру нямецкага дота. Крыўдна, што той яго гераізм нічога не каштаваў: жонка і двое яго сыноў, адзін зусім немаўлятка, страціўшы карміцеля, былі, можна сказаць, асуджаны на смерць… Толькі дзякуючы мудрай маці ды ўсемагутнаму Богу нам пашчасціла выжыць, спазнаўшы і голад, і холад, і каласкі, і хамячыя схованкі збожжа, і крыўды, і прыніжэнні, і пагрозы ўлад за «невыкананне мінімуму працадзён».

Адчувалася, што я зачапіў тонкія струны бацькавай душы. Крыху памаўчаўшы, ён, як быццам ужо сам для сябе, прадоўжыў.

– Каб даць хоць невялічкую палёгку маці, трэба было хутчэй самому станавіцца на ногі. Пасля школы – адразу ў ПТВ на токара: траплю на завод – будзе нейкі заробак. Але хутка прызвалі ў войска. Там, на сцэне салдацкага, а потым і гарнізоннага афіцэрскага клуба ў мяне пачалі раскрывацца прыродныя мастацкія здольнасці: спяваў, арганізаваў аматарскі тэатр, у якім удзельнічалі не толькі салдаты, але і афіцэры са сваімі жонкамі, дзецьмі. Ставіў драматычныя і музычна-драматычныя пастаноўкі, складаў канцэртныя праграмы. Тым больш што акцёрскі матэрыял быў выдатны: многія жонкі афіцэраў мелі сярэднюю і вышэйшую тэатральную адукацыю, былі такія, хто скончыў музычнае вучылішча і нават кансерваторыю. Як ні дзіўна, але менавіта ў арміі добрыя людзі навялі мяне на думку і рэальна сталі рыхтаваць да паступлення ў кансерваторыю.



Дакументы накіраваў у Львоўскую і Мінскую кансерваторыі – якая першай адзавецца, туды і паеду. Першай прыслала выклік на экзамены наша, беларуская. У дзень іспытаў падыходжу да канцэртмайстра, кладу на пюпітр ноты, гляджу на членаў камісіі – Алоўнікаў, Александроўская, Ніжнікава, Асколкаў, Каландзёнак… Я ведаў: курс набіраў Асколкаў, які спецыялізаваўся менавіта на драматычных барытонах і басах. Я праспяваў увесь падрыхтаваны рэпертуар, мяне не спынялі – ну, думаю, гэта добры знак. Ніякага абмеркавання не было, толькі Асколкаў моўчкі, але з усмешкай пацiснуў мне руку. Спускаючыся па лесвіцы, паглядзеў у экзаменацыйны ліст – пяцёрка.

А далей рэзка ўсё пайшло на спад: музычная грамата – тройка, сальфеджыа – 0 (чытаць ноты я не ўмеў). Пасля майго правальнага экзамена па сальфеджыа камісія аб'явіла перапынак, і Алоўнікаў, а ён тады быў рэктарам, узяў мяне пад руку, і мы пакрочылі ў кабінет. Следам ішлі Асколкаў і Каландзёнак. Там адбылася шчырая размова. Справа ў тым, што я быў салдат, якога пад гарантыю Мінскага аблваенкамата адпусцілі здаваць экзамены. Калі здаў – тут жа дэмабілізуюць, калі не – адпраўляюць у вайсковую часць даслужваць. Каландзёнак, а ён быў тады дырэктарам музвучылішча, гаварыў, што ён гатоў хоць зараз залічыць мяне навучэнцам вучылішча. Алоўнікаў мог залічыць мяне толькі на падрыхтоўчы, нулявы, курс. Абодва варыянты не падыходзілі – толькі залічэнне ў вышэйшую навучальную ўстанову давала права на дэмбель. Але ж я праваліў адзін з экзаменаў… Развітваючыся, Асколкаў сказаў: «Ты ж толькі глядзі, сынок, не загубі, не закапай божы дар… У нас тых, хто сальфеджыа здае выдатна, процьма, а талентаў мала… Такія густыя барытоны, як у цябе, – вялікая рэдкасць. Падвучыся і на наступны год прыходзь – паступіш».

Прызнаюся, мне ўсё ж не хацелася вяртацца назад у войска. І я куляй паляцеў у Тэатральна-мастацкі інстытут, там быў апошні дзень здачы экзаменаў. І, не паверыш, адбыўся цуд!. Трэба было нешта чытаць, а я сказаў: «А можна вам праспяваць?».

Я, помню, выканаў раманс Сяргея Булахава «Спатканне». Невялікая зала з добрай акустыкай, голас гучаў роўна, без надрыву. Заўважыў, што дзве пажылыя жанчыны (гэта былі прафесар Рэдліх і народная артыстка БССР Ждановіч) абціралі насовачкамі вочы. «Весялейшае можаце?» – запытаўся Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. «Паспрабую», – адказаў я, узгадаўшы, што ў мяне добра атрымліваецца ўсім вядомая песня «Эй, ухнем!». «Табе трэба, хлопча, у кансерваторыю, –сказаў, як адрэзаў, той жа рэктар. – Я пазваню Алоўнікаву, ім такія галасы патрэбны…» «А нам што – не патрэбны?» – неяк сярдзіта прамовіла прафесар Рэдліх. «Не, не!.. – нервова залямантаваў я. – У мяне няма сярэдняй музычнай адукацыі… і наогул я хачу вучыцца ў тэатральным…» «Цудоўна! – прамовіў Арлоў. – Прачытайце нам байку ці які-небудзь верш». Тут я разгубіўся, таму што да такога выпрабавання не рыхтаваўся, знаў толькі штосьці са школьнага… Толькі я «пракрычаў» некалькі радкоў верша пра савецкі пашпарт Маякоўскага, як Арлоў прамовіў: «Досыць…» Узнікла паўза, і я пачуў, як нехта сказаў: «Добрая гліна, ёсць з чаго ляпіць… Адпачні, салдацік, у калідоры – мы параімся…»

За дзвярыма мяне чакаў вахцёр, ён пацiснуў мне руку і радасна прамовіў: «Хараша ты спяваў, сільна… Віншую!.. Нікуды не дзенуцца – возьмуць, сто працэнтаў даю…» Яго прароцтва збылося. А звалі таго вахцёра, адстаўнога старшыну, Фёдар Максімавіч, мы з ім сябравалі ўсе гады майго студэнцкага жыцця…

– Ты ж пасля заканчэння інстытута быў адзіны, каго размеркавалі ў Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы, – заўважыў я. – Хоць ты там надоўга не затрымаўся. Што перашкодзіла стаць у будучым народным артыстам?

– Дасягненне любымі сродкамі тытулаў і званняў – не ў маёй натуры. У акцёры я сапраўды трапіў выпадкова, хацеў жа ў кансерваторыю. Таму, адпрацаваўшы тры гады, я пакінуў сцэну. Але любоў да тэатра я зберагаю ўсё жыццё і пастаянна пацвярджаю гэта кнігамі, манаграфіямі, артыкуламі аб дзеячах сцэны і рэцэнзіямі на спектаклі.

Была, праўда, і яшчэ адна прычына. На адным са з'ездаў Саюза тэатральных дзеячаў мяне выбралі першым намеснікам старшыні і адначасова прызначылі дырэктарам рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтваў. Не ведаю, ці то лёс, ці жаданне паспрабаваць свае сілы ў галіне тэатразнаўчай навукі, але неўзабаве накіравалі мяне ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук аж на восем гадоў. За гэты час напісаў і абараніў кандыдацкую дысертацыю, выдаў дзве кнігі, надрукаваў больш за сотню розных артыкулаў аб тэатральным мастацтве. Потым паступіла прапанова ўзначаліць кафедру рэжысуры і акцёрскага майстэрства ў Мінскім інстытуце культуры – пагадзіўся. Было гэта ў 1981 годзе, якраз тады, калі ты, Максім, з'явіўся на свет. Больш за пятнаццаць гадоў адпрацаваў у гэтай вялікай навучальнай установе, стаў прафесарам… Ганаруся, што ў той час побач са мной былі такія мудрыя педагогі, як Даброцін, Папоў, Кузьменка, Дапкюнас, Баравік…. Кафедра мела сваю аспірантуру і праз яе папаўнялася маладымі педагагічнымі кадрамі. Штогод праз завочную і дзённую форму навучання праходзілі каля пяцідзесяці спецыялістаў, кіраўнікоў тэатральнай самадзейнасці, рэжысёраў народных тэатраў.



**Юрый Сохар (справа) з Анатолем Сабалеўскім, Валянцінай Ждановіч і Рычардам Смольскім.**

Не буду пераказваць далейшую размову з бацькам, скажу толькі: шчасліва склаўся яго лёс. Навукова-педагагічную дзейнасць ён спалучаў з літаратурнай працай, да чаго ў яго аказаліся вялікія здольнасці. Ён напісаў прыкладна 100 нарысаў, прысвечаных слынным дзеячам мастацтва. Шырокі рэзананс выклікала яго п'еса «Вінцэнт» – пра жыццёвы і творчы шлях заснавальніка прафесійнага беларускага музычна-драматычнага тэатра В.І.Дуніна-Марцінкевіча.

Наша размова ў той «яблычны» дзень скончылася, я сказаў бы, філасофскімі разважаннямі бацькі пра наша сённяшняе жыццё, пра заўтрашні дзень.

– Духоўная будучыня бачыцца мне светлай, – сказаў ён. – Людзі вызваляюцца ад замбіравання масавай культурай. Яны не хочуць быць манкуртамі, бязроднымі Іванамі ды Мар'ямі. Яны ўжо выбіраюць, што ім чытаць, глядзець, слухаць… Духоўнасць вяртаецца, вернецца ў паўсядзённае карыстанне і наша родная беларуская мова… У тэатрах і кіно плённа даследуецца гістарычнае мінулае, узгадваюцца вялікія імёны Еўфрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага, Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Анастасіі Слуцкай… На выстаўках і вернісажах з'яўляюцца сапраўдныя шэдэўры жывапісу, графікі і скульптуры. Так, хто-ніхто з моладзі з'язджае, але ж многія едуць за мяжу вучыцца, каб потым вярнуцца і тут, дома, упрыгожваць, напаўняць новым сэнсам жыццё – сваё і сваіх дзяцей. Ідзе нармальны працэс духоўнага адраджэння і ўзаемаўзбагачэння… Ты, Максім, можаш запярэчыць мне: маўляў, хапае і негатыву. Так, хапае. З усіх падваротняў высоўваюцца карумпіраваныя дзялкі, навідавоку цынізм, махлярства, падман… Што рабіць? Трэба выкарчоўваць расаднікі… Іх шмат… Як і розных нікчэмных ідэалагічных структур. Шматлікія балбатуны без толку замыльваюць людзям вочы і самі добра нажываюцца за кошт дзяржавы…

…Надышоў час развітвацца. Бацька загрузіў маю машыну сакавітымі яблыкамі, грушамі, рознымі слоікамі з агуркамі, памідорамі, патысонамі… У дарозе я ўключыў дыктафон і з асалодай праслухаў запіс нашай шчырай размовы, у якой дамінаваў аксамітны барытон роднага мне чалавека. Я быў шчаслівы – пагаварыў з бацькам…

12 лістапада будзем віншаваць яго з юбілеем – 75-годдзем. Вядома ж, пажадаем яму моцнага здароўя, каб яго ўнёсак у скарбонку нацыянальнай культуры быў яшчэ больш важкім.

**Максім СОХАР,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

